

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE
US POSTAGE
PAID
ADA, MI
Permit No 47

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 8(44) Жнівень 1997 August Год выд. 5

## Дыяспара перахоўвае беларускую дэмакратычную традыцыю

РУНЬ

Нядаўнія падзеі ў Рэспубліцы Беларусь яскрава дэманструюць, як далёка яшчэ да дасягненьня дэмакратыі ў гэтай неспакойнай краіне. Гэты факт пацьвярджае разважлівасьць, праяўленую сёньняшнімі спадкаёмцамі дасавецкай дэмакратычнай Беларусі, а менавіта Урадам Беларускае Народнае Рэспублікі. Яны паўстрымаліся ад прызнаньня цяперашняга беларускага ўраду. З усіх эміграцыйных урадаў Усходняй Эўропы, якія сьледам адзін за адным перадалі свае паўнамоцтвы, як толькі дэмакратыя паступова ўзнавілася ў бальшыні дзяржаваў былое савецкае імпэрыі, беларускі ўрад адзіны застаўся на эміграцыі.

Бальшыня краінаў Усходняй Эўропы мела карысьць ад уздыму дэмакратычнага ідэялізму, які ахапіў Эўропу пасьля Першае Сусьветнае вайны. Польшча вызвалілася ад прыгнёту пасьля амаль 150-гадовае залежнасьці. Чэхаславаччына паўстала на руінах Аўстра-Вэнгерскае Імпэрыі й сталася ўзорам найбольш пасьпяховае дэмакратыі міжваеннага часу ў гэтым рэгіёне. Апрача Вэнгрыі, дасягнулі незалежнага статусу гэтаксама тры балтыйскія дзяржавы: Эстонія, Латвія, Летува.

Змаганьне за дэмакратыю таксама ахапіла Беларусь і Украіну. Абодва народы дасягнулі незалежнасьці й дэмакратычнага кіраваньня, але на карацейшы ў параўнаньні з вышэйназванымі краінамі пэрыяд, з прычыны іхняй блізасьці да камуністычнай Расеі. На жаль, гэтыя спробы нацыянальнага самавызначэньня, асабліва ў выпадку з Беларусьсю, былі праігнараваныя заходнімі дзяржавамі.

Беларуская сытуацыя - найменш вядомая ці зразуметая з усіх тых выпадкаў, калі дэмакратычныя ўрады Усходняй Эўропы былі змушаныя эміграваць.

Як адзначана прафэсарам Янкам Запруднікам у яго кнізе "Беларусь на гістарычных скрыжаваньнях", пачынаючы ад сакавіка 1917 г. розныя беларускія партыі й арганізацыі імкнуліся да абвяшчэньня дзяржаўнасьці Беларусі. Паводле прафэсара Запрудніка, далейшае няўключэньне бальшавікамі ў лістападзе 1917 г. у сваю праграму пункту пра аўтаномію для Беларусі паспрыяла скліканьню ў наступныя месяцы кааліцыяй беларускіх арганізацыяў і партыяў Усебеларускага Кангрэсу ў Менску. Кангрэс, як ён заўважае, абвясьціў Беларусь дэмакратычнаю рэспублікаю. "На наступны дзень дэлегаты перадалі свае паўнамоцтвы Радзе Кангрэсу, выканаўчы камітет якой працягваў узначальваць беларускі рух у падпольлі." (Запруднік, с. 67) "Брэст-Літоўскае пагадненьне 3 сакавіка 1918 г., якое паклала канец Першай Сусьветнай вайне, падзяліла Беларусь паміж суседнімі дзяржавамі. Гэта сталася прычы-най таго, што выканаўчы камітэт у Трэцяй устаноўчай грамаце абвесьціў Беларускую Народную Рэспубліку незалежнаю й свабоднаю дзяржаваю". (Запруднік, с. 68-70).

Ад сакавіка да сьнежня 1918 г. новы ўрад у Менску самаарганізаваўся, устанавіўшы адміністрацыю й стварыўшы свае вайсковыя адзінкі. Урад таксама пачаў сваю актыўную дзейнасьць з мэтай здабыцьця прызнаньня БНР сусьветнай супольнасьцю. На жаль, гэта не прынесла посьпеху. Геаграфічнае знаходжаньне паміж Польшчаю й Расеяю й доўгая акупацыя ў мінулым - адным ці другім, ці абодвума адразу спрычыніліся да таго, што толькі некалькі краінаў прызналі новую дзяржаву й яе ўрад. Сярод тых, хто прызнаў, тым не менш, былі Нямеччына, Турцыя й Украіна. Злучаныя Штаты не прызналі.

Польска-савецкая вайна мела трагічныя наступствы для маладой дзяржавы. З прыпыненьнем ваенных дзеяньняў восеньню 1920 г. Польшча й РСФСР пагадзіліся на паўторны падзел Беларусі, які больш-менш супадаў па сваіх усходніх межах з апошнім падзелам Польшчы. Новае беларускае войска змагалася адважна, але ня здолела процістаяць бальшавікам, як прыклад гэтага - Слуцкае паўстаньне восеньню 1920 г. і ягоны разгром.

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**



### Вітаем Др. Язэпа САЖЫЧА

**з 80-мі ўгодкамі жыцьця і 15-мі ўгодкамі Старшынства Рады БНР у Замежжы.**

**Гэн. Я. Сажыч ведамы і заслужаны працаўнік на ніве беларускага адраджэньня, — дзейны і даўгагадовы сябра БАЗА, беларускіх Вэтэранаў і царквы БАПЦ. Вялікі патрыёт Бацькаўшчыны, адданы вайсковец і непахісны незалежнік.**

**Дарагі Др. Язэп! Рады бачыць Вас на старонках нашае незалежнае газэты.**



## Аднавілася Рада БНР

По ініцыятыве вядомага беларускага дзеяча Барыса Рагулі з Канады аднавіла сваю дзейнасць Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. У днях 5-6 ліпеня ў Вільні сабраліся прадстаўнікі беларускіх асяроддзяў з Амерыкі, Бельгіі, Чэхіі, Літвы, Эстоніі, Латвіі, Польшчы, Расіі і дэмакратычнай апазіцыі з Беларусі, каб абмеркаваць накірункі дзейнасці Рады ў сітуацыі, калі Бацькаўшчына пасля некалькіх гадоў незалежнасці гіне як палітычны фактар з карты Еўропы. Беларускі Мабуту — як называлі ўдзельнікі сустрэчы прэзідэнта Лукашэнку — дбае выключна пра свае інтарэсы і тых замежных сіл, з якіх дазволу правіць ён краінай.

Рада БНР у сапраўднасці выконвала функцыю парламента і яна менавіта 25 сакавіка 1918 года аб'явіла незалежнасць краіны. Падчас каланіяльнай польска-савецкай вайны за Беларусь і Украіну Рада і ўрад БНР апынуліся на эміграцыі ў Коўне. Пастановай Рыжскага дагавору Беларусь была падзелена паміж II Рэч Паспалітую і Савецкую Расію. У міжваенны перыяд Рада БНР знаходзіла сабе прыстанішча ў Берліне, Празе, а пасля вайны ў Амерыцы. Пасля аб'яўлення незалежнасці Беларусі ў 1991 годзе, сярод сяброў Рады ўзнікла пытанне пра далейшы сэнс існавання. Адны выказваліся за перадачу сімвалаў БНР уладам суверэннай ужо краіны, другія прапанавалі пачакаць пакуль незалежнасць набудзе не толькі юрыдычны, але і фактычны характар. Калі Лукашэнка, як прэзідэнт незалежнай краіны, аб'явіў, што зробіць усё, каб вярнуць Савецкі Саюз, усім стала ясным, што за свабоду Бацькаўшчыны трэба будзе далей змагацца.

Падчас выступленняў дэлегаты з паасобных краін выказаліся за прадаўжэнне місіі Рады БНР. Аляксандр Баршчэўскі (непрысутны, ягонае выступленне зачытала жонка Ніна Баршчэўская) аргументаваў, што існаванне Рады мае глыбокі сэнс з увагі на тое, што сімвалізуе яна дух незалежнасці, а ў існуючай сітуацыі гэта вельмі важнае.

Барыс Рагуля ад імя Прэзідыума Рады запрапанаваў выдаць маніфест, які мог бы стаць падставай парадку незалежнай Беларусі. Першае — гэта вяртанне нацыянальных сімвалаў і 25 Сакавіка, як нацыянальнага свята беларусаў. Другое — прыватызацыя зямлі і іншай маёмасці. Беларуская мова павінна стаць адзінай дзяржаўнай, але ўраднікі павінны ведаць мову, якой у сапраўднасці карыстаюцца грамадзяне. Школа павінна працаваць на мове, якой хочуць бацькі. Першае, што трэба пабудаваць — гэта дом, а пасля можна ставіць у ім мэблю, — гаварыў Барыс Рагуля. У вольнай Беларусі мусяць быць шанаваны правы чалавека. Ніхто не можа быць затрыманы за палітычныя перакананні. Беларусь не патрабуе вялікай арміі, але ўсе сродкі трэба будзе накіраваць на развіццё эканомікі. Вольная Беларусь не павінна аднак сплачваць крэдыты, якія плывуць цяпер з замежжа на ўтрыманне рэжыму Лукашэнкі. Народ гэтымі сродкамі і так не карыстаецца.



Падчас двухдзённых нарадаў падалі розныя прапановы, часам недарэчныя, як, напрыклад, стварэнне эміграцыйнага ўрада. Наогул, аднак, дамінавала думка выказаная Вячкам Станкевічам з Прагі: за палітычны парадак у Беларусі трэба змагацца ў самой Беларусі. Беларусы з замежжа могуць толькі ўсялякімі спосабамі дапамагаць сваім суродзічам на Бацькаўшчыне. «Ніва» **(ям)**

**Былы амбасадар Злучаных Штатаў Амэрыкі ў Беларусі Дэвід СУОРЦ лічыць, што**

**"Захад мусіўбы вітаць кантакты на ўсіх узроўнях з прадстаўнікамі Рады БНР з тым, каб пацьвердзіць, што адносіны зь сёньняшняй Беларусьсю ў вялікай ступені залежаць ад дэмакратычнасьці яе ўраду."**

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.



# «... І ЗАСТАНУЦЦА ПРАЎДА Й БЫКАЎ»

**Некалі, у 70-я гады, мастак Пятро Драчоў распавядаў, як у Японіі казалі пра Беларусь: «Гэта там, дзе Хатынь і Васіль Быкаў». У нашы дні хіба сумна дадаўся Чарнобыль да вызначэння Беларусі. А Васіль Быкаў па-ранейшаму застаецца візітоўкай Беларусі. Сказаць візітоўка, зманіць значэнне Вялікага сына зямлі беларускай. Сёння Васіль Быкаў — сумленне і голас Беларусі. Голас, які чуе ўвесь свет.**

Васіль Быкаў — няўтульны рэжымам. Савецкая ўлада, што называецца, з усіх сіл старалася прылашчыць праўдалюбца. На сусветнага пісьменніка вешалі і зорку Героя Сацпрацы, і Ленінскую прэмію давалі, каб тым самым прыраўняць яго да падручных партыі, да савецкіх аднадзёншчыкаў. Каб Васіль Быкаў не стаў набелянтам.

У нашы дні Васіля Быкава стараюцца не заўважаць. Праўда, гэта тое самае, што неба не заўважаць. Бо нават сляпыя адчуваюць, што неба над імі.

Адстаўнікі-тылавікі і «смершаўцы», як смаркатыя хлапчукі, крычаць у спіну абразы на вуліцах, у двары, дзе жыве пісьменнік-франтавік з перадавой.

Шмат якія прадстаўнікі другой старажытнейшай прафесіі кідаюць папрокі, што Васіль Быкаў таму і займаецца палітыкай, што стаміўся пісаць мастацкія творы. Стаміцца можна, толькі пішучы хлусню. Пішучы праўду майстар стаміцца не можа. Доказам з'яўляюцца творы Васіля Быкава, прытчы кшталту «На Чорных Лядах», «Сцяна», «Жоўты пясочак». Яны непаўторныя па сваёй ранішняй чысціні пачуцця. Аповесць «Пакахай мяне, салдацік», дарэчы, вылучана на атрыманне сёлетняй рускай Букераўскай прэміі. Гэта болей сумна, чым усцешна. Свае не бачаць. Заўважаюць сябры і суседзі. Хай гэты факт будзе прыступкаю да той прэміі, якую пісьменнік заслужыў годна. Да Нобелеўскай.

Васіля Быкава Бог убярог у пекле вайны, каб сказаў пісьменнік праўду ўсяму свету. А як мы беражом лепшага з лепшых, сумленнейшага з сумленных?

І сёння ў дзень народзін хочацца пажадаць Васілю Уладзіміравічу здароўя. Мужнасці яму не пазычаць.

***Сусвет трымае Вышыня,***
***Душу не грэе холад блікаў.***
***Хлуснёй падавіцца брахня,***
***І застануцца***
***Праўда й Быкаў!***

**Рыгор БАРАДУЛІН,**
**народны паэт Беларусі.**

**(Працяг. Пачатак на стар. 1)**

Заходняя Беларусь была далучаная да Польшчы, Саветы ж стварылі новую Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку са сталіцаю ў Смаленску. З канца 1919 г. кіраўнікі БНР эмігравалі, шукаючы палітычнага азылю. Як і украінцы, беларускія дэмакраты знайшлі прытулак у новаказалежнай і дэмакратычнай Чэхаславаччыне. Першы прэзыдэнт БНР П.Крэчэўскі й ягоны намеснік В.Захарка распачалі сваю дзейнасьць у Празе, дзе была заснаваная сядзіба Рады БНР. (Між тым частка кіраўніцтва БНР засталася на Бацькаўшчыне, але спыніла сваю дзейнасьць як арганізаваная палітычная група.)






Блянк пашпарту БНР.
(Захоўваецца ў бібліятэцы Акадэміі Навук Летувы).

Праская група на чале з П.Крэчэўскім заявіла пра сябе як актыўная палітычная група. Зазначым, што Рада ў той час паслала свайго прадстаўніка Язэпа Варонку, які быў прэм'ер-міністрам Ураду БНР з 1919 па 1920 г.г., у ЗША. Урад ЗША заявіў Я.Варонку, што ня можа прызнаць БНР, паколькі афіцыйны ўрад Беларусі знаходзіцца ў Менску.

Пачынаючы ад 1924 г. бальшавікі шукалі магчымасьці аслабіць і зьнішчыць праскую групу, прыкрываючыся пошукамі паразумення, дасылаючы эмісараў да радных. Саветы разумелі, што БНР зьяўляецца духоўным сымбалем і дзейнай зброяй для беларусаў, а таму дамагаліся яе ліквідацыі. Такая магчымасьць зьявілася ў кастрычніку 1925 г. пад час Бэрлінскай канфэрэнцыі, калі некалькі сяброў Рады заявілі пра здачу мандатаў БНР і вяртаньне на Беларусь. Нягледзячы на гэта, Рада, ачоленая П.Крэчэўскім, працягвала сваю дзейнасьць у Празе.

З 1925 да 1939 г. Рада БНР у Празе заставалася адзіным палітычным прадстаўніцтвам Беларускай дзяржавы за мяжою. П.Крэчэўскі памёр у 1928 г. Ягоны намеснік Васіль Захарка быў абраны старшынёю Рады. У 1939 і 1940 гадох нацысцкая Германія зьвярнулася да яго з прапановаю супрацоўніцтва. В.Захарка адмовіўся.

Пад час вайны дзейнасьць Рады БНР была малаактыўнай, але па заканчэньні вайны й з пераездам у Парыж кіраўніцтва БНР аднавіла сваю актыўнасьць. Па сьмерці В.Захаркі (1943), новы кіраўнік Рады Мікола Абрамчык прыклаў багата намаганьняў у справе дапамогі палітычным уцекачам у Нямеччыне й іншых краінах. Ён меў інтэнсыўныя палітычныя кантакты з Вашынгтонам, Парыжам, Бонам і браў актыўны ўдзел у антыбальшавіцкім Вызвольным Камітэце.

Напрыканцы вайны ў акупаванай немцамі Беларусі частка нацыянальнага актыву абвясціла стварэньне Беларускай Цэнтральнай Рады, якую ўзначаліў Радаслаў Астроўскі. Многія сябры БЦР, антыкамуністы па сваіх поглядах, былі вымушаныя эміграваць з наступленьнем савецкага войска. Намінальна БЦР існуе й сёньня, аднак многія яе сябры асацыююць сябе з Радай БНР.

За ўвесь паваенны час, пачынаючы ад 1948 г. дзейнасьць Рады БНР не перапынялася. З вясны 1946 г. да 1988 г. адбылося 19 сэсіяў Рады БНР, на якіх разглядалася дзейнасьць Рады й прымаліся праграмы й пляны на будучае. На сёньняшні дзень Рада БНР складаецца з 55 сябраў разам з прэзыдэнтам, віцэ-прэзыдэнтам, скарбнікам і каардынатарам зьнешніх сувязяў. Цяперашнім прэзыдэнтам Рады БНР зьяўляецца доктар Язэп Сажыч, а ягоным намесьнікам - доктар Барыс Рагуля.

Эміграцыйныя ўрады іншых усходнеэўрапэйскіх дзяржаваў прадстаўлялі законнасьць і дэмакратыю ў той час, калі іхнім краінам былі навязаныя таталітарныя рэжымы. Калі дэмакратычныя ўрады былі вымушаныя ратавацца ад наступленьня фашызму, ЗША й іншыя заходнія дзяржавы звычайна прызнавалі гэтыя эміграцыйныя ўрады й падтрымлівалі іх да аднаўленьня дэмакратыі на радзіме. На жаль, гэтага не адбылося ў дачыненьні дэмакратычных нацыянальных урадаў на Беларусі й Украіне.

Застаецца фактам, што Рада БНР забясьпечвае неразрыўную сувязь дэмакратычнага плюралізму паміж адзіным і адначасным пэрыядам нацыянальна-дзяржаўнага існаваньня (1919-1920) і ўзнаўленьнем незалежнасьці з развалам СССР у 1991 г. У адрозненьне ад украінцаў Рада БНР вырашыла паўстрымацца ад прызнаньня й перадачы паўнамоцтваў новаму кіраўніцтву Беларусі. Падставай гэтаму было тое, што заканадаўчая ўлада была абраная яшчэ ў савецкі час, інакш кажучы, недэмакратычным шляхам. А таксама праз скептыцызм да шляху ажыцьцяўленьня дэмакратычных рэформаў урадам. Гэтае рашэньне сёньня выглядае абачлівым і рацыянальным. Захад адзіны ў сваім паглядзе на сёньняшняе праўленьне на Беларусі як на недэмакратычнае ды як на прыйшоўшае да ўлады недэмакратычным шляхам. Таму беларуская дэмакратычная традыцыя й нацыянальная законнасьць захоўваюцца сёньня беларускаю дыяспараю.

**Дэвід СУОРЦ,**
**былы амбасадар ЗША ў Беларусі**

# Кенет Ялавіц «пост здаў»

**Учора, у апошні дзень свайго знаходжання ў Беларусі, пасол ЗША Кенет Ялавіц правёў развітальную прэс-канферэнцыю для журналістаў.**



Азіраючыся на трохгадовы перыяд сваёй працы ў нашай краіне, сп.Ялавіц галоўнай падзеяй назваў тое, што Беларусь канчаткова пазбавілася ядзернай зброі, і гэта значна палепшыла сітуацыю ў Цэнтральнай Еўропе. Пасол з задавальненнем адзначыў таксама пашырэнне кантактаў паміж грамадзянамі Беларусі і ЗША. У прыватнасці, за гэты тэрмін, па ягоных дадзеных, звыш 500 студэнтаў і навучэнцаў пабывалі ў ЗША па розных праграмах развіцця навукі і адукацыі. Часцей сталі прыязджаць і ў Беларусь госці з Амерыкі. Ёсць нядрэнныя прыклады эканамічнага супрацоўніцтва з буйнымі амерыканскімі кампаніямі. Аднак у цэлым працэс развіцця узаемаадносінаў, па словах Кенета Ялавіца, не быў лёгкім. *«Я пакідаю Беларусь з пачуццём заклапочанасці, што вашая краіна не ідзе па шляху дэмакратычнага рэфармавання настолькі хутка, каб ужо ў бліжэйшым будучым стаць паўнаварным членам супольнасці дэмакратычных краінаў свету»,* — заявіў сп.Ялавіц. Пры гэтым ён падкрэсліў, што ЗША не выступаюць за ізаляцыю Беларусі. На ягоную думку, да ізаляцыі вядзе палітыка беларускага кіраўніцтва, якое не выконвае абавязацельстваў перш за ўсё па захаванні правоў чалавека, якія былі ўзятыя беларускімі ўладамі раней.

Паколькі на сустрэчу з журналістамі сп.Ялавіц прыехаў адразу пасля развітальнай размовы з Аляксандра Лукашэнкам, журналісты не маглі абмінуць «прэзідэнцкую» тэму. Пасол ЗША ў Беларусі дыпламатычна адхіліўся ад прамых адзнак у бок Лукашэнкі, аднак заўважыў, што беларускім грамадзянам трэба браць больш актыўны ўдзел у падзеях, якія адбываюцца ў іхняй краіне і такім чынам уздзейнічаць на тую альбо іншую пазіцыю свайго кіраўніка, які, як сапраўды «таленавіты палітык», будзе вымушаны прыслухоўвацца да іншых поглядаў.

Адказваючы на пытанне аб ягоным далейшым лёсе, Кенет Ялавіц паведаміў, што будзе працаваць у Вашынгтоне ў Інстытуце міжнародных зносінаў пры Дзяржэпартаменце кіраўніком спецыяльнай праграмы для дыпламатаў. Новаму паслу ЗША ў Беларусі сп.Спекхарду ён пажадаў больш магчымасцяў для азнаямлення з краінай: *«Як Вашынгтон не ўся Амерыка, так і Мінск — не ўся Беларусь»,* — сказаў сп.Ялавіц.

*«І ўсё ж я развітваюся з вамі ў аптымістычным настроі. Мае найбольшыя ўражанні ад Беларусі — гэта яе шчырыя, таленавітыя людзі і выдатныя краявіды. У вас выдатны чалавечы і прыродны патэнцыял. І я жадаю вам знайсці магчымасць выкарыстаць гэты патэнцыял найлепшым чынам»,* — заявіў Кенет Ялавіц.

*"Свабода"* **Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

Прэзыдэнт ЗША., Б. Клінтон назначыў В. Спекхорда новым паслом Амэрыкі ў Беларусь.

Спадар Спекхорд нарадзіўся ў штаце Вісконсін і адукацыю атрымаў у месьце Мэдысон. Жанаты, мае трое дзяцей.

Жадаем Сп. В. Спэкхарду вялікіх удачаў на новай пасадзе.

# Дыяспара: супярэчлівы працяг нацыі



Здарылася так, што ў адзін і той жа дзень сярэдзіны вясны дзве розныя газеты ў розных (пакуль?) дзяржавах надрукавалі матэрыялы, супастаўленне зместу якіх выклікала, з аднаго боку, пачуццё вінаватасці і горычы, а з другога — вялікую павагу і разам здзіўленне ад гэтакай высокай праявы чалавечага духу і самаахвярнасці ў імя, здавалася б, такой "нематэрыяльнай" рэчы, як нацыянальная адметнасць і незалежнасць. Маюцца на ўвазе інтэрв'ю маладога польскага беларуса Мірослава Урбановіча ў "ЛіМе" (N20, 97) пад загалоўкам "Нам наўрад ці можна будзе пазайздросціць..." і рэпартаж у расійскай уплывовай газеце "Известия" (N 90, 97) "Аслан Масхадаў: На што мы, чачэнцы, здольныя?"

У абодвух матэрыялах гаворка ідзе пра адносіны дзяржаў да сваіх замежных суродзічаў (дыяспары). А што гэта фактар у жыццядзейнасці любой краіны немалаважны, асабліва ў міжнародных стасунках, яскрава сведчыць сусветны вопыт. Прыкладам хаця б тое, што адносна невялікая па колькасці насельніцтва (5 з нечым мільёнаў чалавек) краіна Ізраіль не толькі здолела атрымаць незалежнасць у шматгадовай крывавай барацьбе з магутнай Брытанскай імперыяй, але мае магчымасць падтрымліваць высокі эканамічны ўзровень сваіх грамадзян і адначасова істотна ўплываць на міжнародныя справы. Даўно таксама вядомая сваёй актыўнасцю на карысць гістарычнай радзімы армянская дыяспара, пачынае аказваць усё больш істотную падтрымку Кіеву ўкраінская, асабліва ў ЗША і Канадзе. Прыклады можна доўжыць.

У той жа час наша, беларуская дыяспара зараз паўсюдна, па звестках, адчувае роспач і вялікую трывогу. Вось як кажа пра ўласнае этнічнае самапачуванне той жа Міраслаў Урбановіч: "Часам я ў сваёй вёсцы (на Беласточчыне, паблізу Белавежскай пушчы — **У. А.**) чую словы: "Пра якую Беларусь ты гаворыш? Паглядзі, што дзеецца ў Мінску!" Але каб заставацца беларусам (звернем асаблівую ўвагу! — **У. А.**), мне непатрэбна Беларусь. Яна патрэбна для іншага — для нашай бяспекі. Калі ўсе будуць ведаць, што існуе моцная незалежная Беларусь, этнічных беларусаў у суседніх краінах ніхто і ніколі не папракне іхнім паходжаннем.. баюся, што на будучай польска-расійскай мяжы апусціцца новая "жалезная заслона" і адновіцца сітуацыя 30-х гадоў..."

Цяпер звернемся да надрукаванага ў "Известиях" "чачэнскага" матэрыялу. Ён прысвечаны сустрэчы А. Масхадава з чачэнскай абшчынай Масквы пасля падпісання мірнай дамовы з Б. Ельцыным, прэзідэнтам магутнай краіны, які яшчэ некалькі месяцаў таму і слухаць не хацеў аб нейкіх увогуле перамовах з "сепаратыстамі" і "тэрарыстамі" з каўказскай ускраіны імперыі. Тым не меней, гэта адбылося.

На сустрэчы з чачэнскай абшчынай у Маскве, піша карэспандэнт "Известий" І. Дзяменцьева, А. Масхадаў размаўляў на сваёй мове. Хаця, звернем увагу, чачэнцы практычна ўсе валодаюць расійскай мовай, сам А. Масхадаў, у былым — палкоўнік элітных часцей РА, увогуле валодае добра. Тым не меней, размова вялася па-чачэнску і расійскай журналісты давялося шукаць перакладчыка.

Сустрэча А. Масхадава з чачэнскай дыяспарай у Маскве, піша І. Дзяменцьева, абяцала быць драматычнай. Сапраўды, тут атабарыліся суродзічы самых розных палітычных поглядаў. Гэта і прадпрымальнікі, якія вывезлі падалей ад вайны свае сем'і, і апазіцыйная Дудаеву інтэлігенцыя, і два прарасійскія экс-урады, асабліва заўгаеўскі са сваім апаратам, прыстроены расійскім кіраўніцтвам у Маскве. Усе яны маглі чакаць ад новага прэзідэнта Ічкерыі сама менш папрокаў за няўдзел у змаганні за незалежнасць. Аднак нічога гэтага не было.

А. Масхадаў падкрэсліў, што падпісанне мірнага дагавора Чачні з Расіяй — гістарычны дзень, першы дзень Міру. Падпісанне адпаведных дакументаў на самым высокім узроўні — гэта ўпершыню юрыдычна пацверджаны факт, што вайна была і нарэшце скончылася. З цяперашняга дня, адзначыў А. Масхадаў, два народы вуснамі сваіх прэзідэнтаў абвясцілі ўсяму свету пра намер ніколі больш не ўзнімаць зброю адзін супраць другога. Гэта акт вялікай мужнасці і палітычнай волі з боку прэзідэнта Ельцына, падкрэсліў Масхадаў.

А ў тым, што чачэнскаму народу ўдасца годна завяршыць гэтую вайну, сказаў А. Масхадаў, ён ніколі не сумняваўся, бо добра ведаў сваіх суродзічаў. Нашмат складаней, падкрэсліў ён, — пабудаваць сваю дзяржаву. Ёсць людзі, казаў ён, якія нават разлічваюць на тое, што чачэнцам гэта не па сілах. Яны зыходзяць менавіта з чачэнскага характару і менталітэту. Гістарычна так склалася, што вайнах павінны быў у першую чаргу клапаціцца пра сябе, пра дамашні ачаг, пра сям'ю, абараняць іх. Цяпер давядзецца крута мяняць такое ўяўленне пра свой доўг, настала пара адчуць сваю адказнасць перад грамадствам, перад будучай нацыянальнай дзяржавай і аб'яднаўвацца. Галоўная задача, якая паўстала зараз перад новым чачэнскім урадам, падкрэсліў А. Масхадаў, задача сапраўды гістарычная — аб'яднаць народ. Усім нам, сказаў ён, давядзецца паўстаць перад светам не са зброяй у руках, а прайсці праверку на іншае ўмельства і даказаць суседзям і самім сабе, на што мы здольныя ў мірны час.

А. Масхадаў пацвердзіў тое, што ўжо вядома са сродкаў масавай інфармацыі і сведкаў: гаспадарка Чачні разбураная вайной, многа хворых, інвалідаў. Тым не меней, народ з той жа ўпартасцю, з якой змагаўся за незалежнасць, цяпер аднаўляе ўласныя ачагі, залечвае раны.

Што да таго, хто "ваяваў", а хто "не ваяваў", падкрэсліў А. Масхадаў, каб папракаць ці асуджаць некага, хто не трымаў у руках аўтамат ці гранатамёт, а інакш уладкаваў сваё жыццё, такое супрацьстаянне дапусціць нельга. Зусім неабавязкова было ўрэшце ўсім ваяваць, не было такой неабходнасці. Не трэба звяртаць увагу, сказаў А. Масхадаў, на мае рэзкія выступы ў часе перадвыбарчай кампаніі. Нават сярод заўгаеўскага атачэння ёсць людзі падманутыя, тыя, хто памыляўся. Ніхто не збіраецца напамінаць ім пра тое. Канешне, ёсць і такія, хто прывёў у Чачню чужыя войскі і садзейнічаў распачынанню вайны супраць уласнага народа, але такіх — чалавек дзесяць, ад сілы дваццаць. Але калі ваяваць усім было неабавязкова, то сёння, калі давядзецца будаваць сваю дзяржаву, кожны абавязаны дапамагчы. Дзе б ён ні жыў, дзе б ні знайшоў свой лёс і сваю справу, павінен успомніць, што ён чачэнец, чачэнец, чачэнец, і дапамагчы чым зможа. У нас ёсць і акадэмікі, і практыкі, яны рассыпаны па ўсёй Расіі, раз'яднаныя. Гэта не страшна — абы кожны ўспомніў пра тое, што ён чачэнец, і ўзяў на сябе частку ношы. Я быў за мяжой, сказаў А. Масхадаў, і пачуў запэўніванні, што нам дапамогуць фінансава, дапамога дзякуючы заключаным эканамічным пагадненням паступіць і з Расіі. Але гэта не галоўнае. Галоўнае, падкрэсліў чачэнскі лідэр, гэта тое, што мы зробім для сябе самі. Кожны з нас.

Асобна прэзідэнт Чачні спыніўся на пытаннях развіцця культуры і адукацыі. Мы — мусульмане, сказаў ён. У часе вайны, у цяжкі час вера дапамагала людзям выжыць, была апорай. Аднак чачэнцы — не дагматыкі. Ды і пытанні веры, нацыянальнай духоўнасці — так можна было зразумець А. Масхадава, заўважае журналістка, — дэкрэтамі не вырашаюцца. Пра нас, заўважыў ён, кажуць як пра дагматыкаў. Не, хто хоча мець вусы — няхай мае, хто хоча хадзіць у шапцы ці без шапкі — ягоная асабістая справа. Дзяржава, супакойцеся, у гэта ўмешвацца не будзе. Мы жывём у цывілізаваным свеце, падкрэсліў А. Масхадаў, і хочам карыстацца яго дасягненнямі. Мы надаем першаступеннае значэнне добрай адукацыі. Першае, пра што мы паклапаціліся, калі *скончылася вайна, пастараліся* адчыніць школы. Праўда, не халае настаўнікаў, якім да таго ж не плацілі зарплату, разбураны многія будынкі, але цяпер пачалося аднаўленне.

Прадстаўнікі чачэнскай дыяспары выказалі намер усімі сіламі аказваць дапамогу аднаўленню сваёй гістарычнай радзімы.

Сустрэча чачэнскага прэзідэнта з дыяспарай цікавая сама па сабе як элемент нацыянальна-культурнага жыцця мужнага свабодалюбівага народа для нас, беларусаў, асабліва вартая ўвагі. Як вядома, у канцы ліпеня плануецца правядзенне чарговага З'езда беларусаў свету. Якім будзе дыялог вышэйшага кіраўніцтва Беларусі з паўнамоцнымі прадстаўнікамі дыяспары? Мы ўжо не кажам пра мову, на якой ён будзе весціся, хаця вельмі б пажадана, каб яна была ўсё ж нашай, беларускай, але на якім узроўні кіруючых асоб? Наколькі ўсведамляе цяперашняя наша кіруючая эліта, што дыяспара з'яўляецца надзвычай важным працягам нацыі ў свеце, няхай сабе і ў пэўным сэнсе супярэчлівым? Сусветны вопыт сведчыць: дыяспара сілкуецца этнасам, але ж у сваю чаргу і нацыя не знікае, пакуль у яе ёсць дыяспара. Да прыкладу ўжо згаданая яўрэйская нацыянальная дзяржава дзякуючы менавіта гэтаму чынніку змагла не толькі адрадзіцца, але і расквітнець і праз 2 тысячы гадоў, успомніўшы сваіх самаахвярных герояў і нанава пракляўшы здраднікаў і адступнікаў. Так ёсць і будзе.

**Уладзіслаў АСІНАВЕЦ**



# ТРЫ ГІМНЫ — І ЎСЕ БЯЗ СЛОЎ

**Першым сімвалам Саюза Беларусі і Расіі стаў дзяржаўны гімн былога СССР. Што стаіць за гэтым сімвалічным актам?**

На мінулым тыдні намаганнямі Парламенцкага сходу Беларусі і Расіі вернуты з нябыцця дзяржаўны гімн былога Савецкага Саюза. Гэты сімвалічны акт не толькі падкрэслівае сапраўдныя мэты пракамуністычных дэпутатаў, якія складаюць значную частку беларуска-расійскага міжпарламенцкага органа, але і служыць выразнай антыельцынскай дэманстрацыяй.

Апошні раз мелодыя савецкага гімна гучала па дзяржаўных тэле- і радыёканалах у снежні 1991 года. Да ўхілення сімволікі СССР і РСФСР непасрэднае дачыненне мае менавіта Барыс Ельцын. Гістарычныя сімвалы расійскай імперыі — бела-блакітна-чырвоны сцяг, герб у выглядзе залатога двухгаловага арла і гімн на музыку Міхаіла Глінкі — узаконены ўказамі Ельцына яшчэ да распаду Савецкага Саюза, адразу пасля жнівеньскага путчу 1991 года.

Паказальна, што ні хасбулатаўскі Вярхоўны Савет, разагнаны ў 1993 годзе, ні наступная рыбкінская Дума з-за процідзеяння камуністаў не здолела прыняць адпаведны закон, у якім былі б замацаваны гэтыя гістарычныя сімвалы Расіі, што дэ-факта з'яўляюцца дзяржаўнымі ўжо на працягу шасці апошніх гадоў.

Цяперашняя Дзяржаўная Дума пад кіраўніцтвам камуніста Генадзя Селязнёва неаднаразова спрабавала па прыкладу Беларусі адмяніць гістарычную сімволіку і вярнуць крыху падпраўленыя савецкія сімвалы. Апошні раз такая спроба была зроблена сёлетняй вясной, напярэдадні стварэння беларуска-расійскага Саюза. Аднак гэта прапанова ў чарговы раз не набрала патрэбнай колькасці галасоў, каб стаць законам.

Намнога больш паспяховымі аказаліся рэанімацыйныя намаганні Генадзя Селязнёва на саюзнай ніве. У мінулую суботу ў Віскулях менавіта ён, як Старшыня Парламенцкага сходу, паставіў подпіс пад адпаведнай пастановай, паводле якой гімн СССР стаў гімнам беларуска-расійскага Саюза.

Цікава, што адноўлена толькі мелодыя гімна. Тэкст, напісаны С. Міхалковым і Г. Эль-Рэгістанам, парламентарыі чамусьці не задаволіў. Магчыма, іх збянтэжыла заяўленая ў ранейшым варыянце тэксту мэта: «... Партия Ленина — сила народная нас к торжеству коммунизма ведет». Мяркуецца, што словы гімна будуць іншыя. Якія і хто іх напіша — пакуль невядома. Будзе лагічна, калі парламентарыі звернуцца па дапамогу да таго ж Сяргея Міхалкова. 84-гадовы Сяргей Уладзіміравіч, шырока вядомы многім пакаленням савецкіх дзяцей бессмяротным вобразам дзядзькі Сцёпы-міліцыянера, на сваім вяку дзяржаўны гімн перарабляў і дапасоўваў да патрэб палітычнай кан'юнктуры неаднаразова.

Увогуле, савецкі гімн, як і іншыя дзяржаўныя сімвалы СССР, вызначаецца тым, што падвяргаўся карэкціроўкам і праўкам рэгулярна і кардынальна. Да 1944 года дзяржаўным гімнам Савецкага Саюза быў «Інтэрнацыянал». Аднак чамусьці ў разгар вайны Іосіф Сталін вырашыў памяняць яго. (Тады ўвогуле адбыўся круты паварот у ідэалогіі — дзеля ўмацавання патрыятычнага духу ўлада пайшла на кантакт з царквой, шырока прапагандавалася руская гісторыя, арміі былі вернуты многія элементы формы царскіх афіцэраў.) Словам, на шчыт былі ўзняты рускія патрыятычныя лозунгі, а лозунгі сусветнай рэвалюцыі, увасобленыя ў «Інтэрнацыянале», straцілі актуальнасць.

Так, у ноч на 1 студзеня 1944 года па радыё ўпершыню прагучала мелодыя кампазітара генерал-маёра Аляксандра Аляксандрава на верш Сяргея Міхалкова і Георгія Эль-Рэгістана, у якім услаўляліся Ленін, Сталін, Кампартыя і савецкі народ.

Зразумела, у 1953 годзе ўпамінанне пра Сталіна давялося выкрэсліваць, а тэкст правіць. Наступная праўка была зроблена ў брэжнеўскую эпоху, напярэдадні прыняцця Канстытуцыі 1977 года. Тады тэкст быў дапасаваны да лозунгаў развітога сацыялізму. Цікава, што канчатковае Палажэнне аб Дзяржаўным гімне СССР было зацверджана Прэзідыумам Вярхоўнага Савета толькі пры Чарненку, у красавіку 1984 года.

Дэмарш расійскіх камуністаў з рэанімацыяй савецкага гімна — своеасаблівы контрудар па Ельцыну, па ягонай ініцыятыве наконт пахавання цела Леніна і знішчэння маўзалея на Краснай плошчы. Да гэтай «вайны сімвалаў» далучыліся па баку Думы беларускія дэпутаты. У Расіі справа ідзе да роспуску Думы. І невядома, з кім давядзецца нашым кіраўнікам праз паўгода засядаць у прэзідыуме Парламенцкага сходу і які гімн спяваць пры адкрыцці пасяджэння.

Пакуль жа беларускія і расійскія грамадзяне апынуліся ў даволі спецыфічнай сітуацыі. Ніводзін з трох гімнаў, якія ўзаконены цяпер у Беларусі і Расіі, не мае слоў...

**Валянцін ЖДАНКО.**

«Звязда»

## УШАНАВАНЬНЕ ПАМЯЦІ МІХАСЯ МІЦКЕВІЧА

18-га ліпеня сёлета ў музэі Якуба Коласа ў Менску адбылося ўшанаваньне памяці Коласавага малодшага брата Міхася, які шмат гадоў жыў у Нью-Ёрку, дзе і пахаваны. Шмат хто ведаў яго як дзядзьку Міхася, працавітага грамадзкага і культурнага дзеяча: настаўніка, пісьменьніка, журналіста, рэдактара і перакладчыка. Нагодай урачыстасьці паслужыла стагодзьдзе ад нараджэньня гэтага выдатнага чалавека.



Вечар памяці вяла сп-ня Марыя Міцкевіч, Коласава ўнучка, супрацоўніца Нацыянальнага навукова-асьветнага цэнтру імя Ф. Скарыны. Са словам пра Дзядзьку Міхася выступілі перад аўдыторыяй спсп. Адам Мальдзіс, Міхась Міцкевіч (бацька Марыі, наймалодшы сын Я. Коласа), а. Сяргей Гардун, паэт Яўген Хвалей з вершам, прысьвечаным Антосю Галіну (літаратурны псэўданім дзядзькі Міхася), Янка Запруднік. Таленавіты саліст Вячаслаў Статкевіч выканаў колькі народных песень.

Багатай драмай і спадчынай (тымчасам, праўда, раскіданай) жыцьцё Дзядзькі Міхася Міцкевіча будзе ўнятае ў зборнік ягоных твораў і ўспамінаў пра яго, які рыхтуецца да друку ў Скарынаўскім навуковым цэнтры. Працягваецца збор матэрыялаў для такога зборніка. Калі-б хто-небудзь з чытачоў "Дайджэсту" меў у сябе лісты ад Дзядзькі Міхася Міцкевіча, здымкі яго, ці мог-бы падзяліцца пра яго ўспамінамі, выдаўцы зборніка былі-б вельмі радыя атрымаць такі матэрыял. Слаць можна на "Дайджэст". Прымаюцца таксама грашовыя ахвяраваньні на выданьне кнігі. Яна будзе найтрывалейшым помнікам чалавеку, які цэлае сваё жыцьцё ахвяраваў на карысьць свайму народу.

Я. З.

## Беларускае

Імпэрская Расея заўсёды імкнулася заваяваць Беларусь, а беларусы жадалі захапіць уладу ў Маскве.

Дзяржаўнасьць, сувэрэннасьць, нацыянальная адметнасьць — каштоўнасьці, якія вельмі мала вабяць сучаснага беларуса.

Каляніялізм — афіцыйная ідэалёгія, якая пануе на беларускіх землях на працягу апошніх стагодзьдзяў.

Большасьць маіх знаёмых сёньня зьневажаюць усё беларускае з той самай лёгкасьцю, як учора абражалі расейскае і захапляліся амэрыканскім. Сярод пярэваратняў досыць шмат пісьменьнікаў і дзяржаўных служак.

Нацыяналісту рэзьбяру зь Беласточчыны тамтэйшы поп сказаў, што калі выбіць на надмагільным помніку беларускі надпіс, дык Бог ня прыме душу памерлага ў Рай. Небарака ледзь ня плакаў, апавядаючы пра папа-русіфікатара. А мяне больш зьдзівіла вера божага служкі ў магутнасьць нашага слова, якое здатнае зачыніць райскую браму.

Расеец можа сабе дазволіць думаць, што ён зусім і не расеец, а савецкі чалавек, расіянін, інтэрнацыяналіст, касмапаліт... Беларус ня можа пайсьці на такую раскошу.

У Беларусі ёсьць толькі адна мяжа, яна праходзіць паміж Р.Б. і Р.Ф.

Адам Глёбус — "Наша Ніва"

***«БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ»***
**чакае Вашае ахвяры**
**на**
**ВЫДАВЕЦКІ ФОНД!!!**

***Апошнім часам пра беларусаў было сказана столькі бруднага, крыўднага, злога, што міжволі прыходзіш да высновы: усё гэта мае адносную існасць. Самае мяккае вызначэнне для нас — быдла, самае лаяльнае выказванне пра беларусаў як народ — гэта зусім не народ. Калі верыць ацэнкам, то мы проста статак, які сцерпіць любога пастуха, якому бізун — у радасць, а пернік і не патрэбен. «Абы не было вайны» — над гэтым, можна сказаць, нацыянальным тэзісам здзекуюцца з асаблівай асалодай. І забываюць, што ў нас не было ніводнага мірнага стагоддзя. Што любая агрэсія супраць Расіі пачыналася праз Беларусь і нашы продкі пастаянна жылі ў чаканні чужаземнай навалы, вынішчэння і голаду. І пры гэтым змаглі выжыць і не знікнуць. Так што пра вайну — памаўчым. Войнаў, якія мы перажылі, хопіць на некалькі народаў.***

***Я таксама беларус. Мне не ўсё роўна, што гавораць пра беларусаў. У тым ліку яны самі. І мне не хочацца нікога біць па твары. Ёсць больш цывілізаваны шлях.***

***Прапаную прыпасці да першакрыніц. Высветліць, якімі мы былі раней. Таму што нацыянальны характар, нацыянальны стэрэатып паводзінаў — рэч, якая мяняецца не так хутка, як палітычныя рэжымы. Можа быць, штосьці стане ясна...***



Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

# БЕЛАРУСЫ

звязда

### ШТО ТАКОЕ НАРОД

«Народ, людзі, якія нарадзіліся на вядомым абшары; людзі ўвогуле; мова, племя; людзі краіны, якія гавораць на адной мове; абывацелі дзяржавы, краіны, якія знаходзяцца пад адным кіраваннем; чэрнь, простыя людзі, ніжэйшыя, падатныя саслоі; мноства людзей, натоўп», — такія тлумачэнні дае Уладзімір Даль. Як бачым, цэласная вызначэння ён не прыводзіць. Можна зрабіць гэта самім: народ — гэта племя, якое гаворыць на адной мове, жыве на пэўным абшары, знаходзіцца пад адным кіраваннем. Груба, канешне, прыблізна, але ўяўленне дае.

Адразу ўзнікае праблема: мова. Як вядома, адзінай мовы, як, скажам, у літоўцаў, у нас няма. Існуюць гаворкі, моцна засмечаныя русізмамі і іншымі «ізмамі». На чыстай, прыгожай, літаратурнай мове размаўляюць сотні людзей на 10-мільённае насельніцтва.

Тым не менш, узор мовы існуе, пры пэўных дабратворных абставінах ён, канешне, будзе запатрабаваны. Гісторыя — рэч доўгая, чаго толькі ў ёй не здараецца...

Наконт абшараў усё больш-менш ясна, мы жывём у адным месцы больш за тысячу гадоў. Больш цьмяна з адзіным кіраваннем. Сцвярджаюць, што ў нас улада народа. Але паводле Даля народаўладдзе — гэта дэмакратыя. Як праціглеглае Даль прыводзіць панцуе самаўладдзя. Пакольні нават сонца хутка будзе ўзыходзіць згодна з рашэннем, то, верагодна, у нас не поўнае народаўладдзе...

Чаму так? Чым гэта абумоўлена? Гэта рацыянальны ці ірацыянальны выбар? Ці было гэта прадвызначана менталітэтам беларусаў? Пытанняў шмат і хочацца мець на іх адказы. Не прэтэндуючы, канешне, на акадэмічную паўнату — гэта задача для іншых.

### ХАРАКТАР

Міфы жывуць доўга. Скажам, вось такі: беларусы — напалову дзікунскі народ, — гэты міф жывы і дагэтуль. Ясна, для чаго ён быў выдуманы раней. Толькі дзеля апраўдання каланізацыі Беларусі. Вось дзікунскае племя, яго трэба скарыць, паставіць пад сваю ўладу, тым самым наблізіць яго да цывілізацыі, што ёсць дабро. Гэткім жа тэзісам апраўдваліся ўсе масавыя забойствы (часта генацыд) абарыгенаў ва ўсім свеце ўсімі каланізатарамі. Калі я сёння чытаю выказванні некаторых этнографаў мінулага, ды і гэтага стагоддзя пра беларусаў, то я ведаю, для чаго гэта пісалася...

Што ж, пачытаем сваіх, напрыклад, таго ж Аркадзя Смоліча — беларускага географа і этнографа.

«Беларус не мае ў характары той рысыкі, адкрытай і грубай прастаты, характэрнай для маскоўца; не мае, зноў жа, лёгкадумнасці, свецкасці і самахвальства, якімі гэтак часта вызначаюцца палякі. І ад украінца, з якім беларус мае наогул шмат супольнага, адзначаецца ён усё ж сваім шчырэйшым сэрцам, ды можа крыху большай рухавасцю», — сцвярджае Смоліч.

Цікава, што свае даследаванні вучоны праводзіў у першай чвэрці нашага стагоддзя. Іншымі словамі, часу прайшло не так і шмат. Праўда, час быў зубадрабільны, варты некалькіх стагоддзяў. Час, калі характар беларуса перакоўвалі занадта інтэнсіўна. Тым не менш, прыглядзьцеся хоць бы да сябе і сваіх суседзяў — не памыляўся Смоліч.

«... Наогул, характар беларуса больш паважны, спакойны і рахманы з добра развітай воляй, пананаваннем над сабою і трываласцю ў працы. На першы погляд здаецца беларус крыху недаверлівым і скрытным; у кожным разе ён не гэтак лёгка сыходзіцца з людзьмі, як масковец. Затое, як толькі ён абзнаёміцца з новым чалавекам і пераканаецца ў яго няшкоднасці, робіцца ён і даверлівы, і шчырым, можа не праз меру, але ў кожным разе нагэтульні, каб завязаць самыя прыязныя адносіны...»

Гэта так, падмануць нас даволі лёгка. Мы як бы не даём сабе магчымасці падазраваць у другога горшыя рысы. Я пазнаёміўся з чалавекам, ён мне стаў сваім, я дзялюся з ім патаемным, веру шчыра і не дапускаю думкі пра падман. І мне горка ўбачыць гэты падман, я замыкаюся. Каб потым зноў адкрыцца, бо зла я не памятаю. Чым карыстаюцца ўсе, каму не лянота. Гэта што датычыць і асобнага чалавека, і дзяржаўнасці ў цэлым...

### НЕ ВАЯРЫ, АЛЕ...

Цікавая рэч: беларусы ніколі ні з кім не ваявалі мэтанакіравана, я маю на ўвазе захоп чужой тэрыторыі з мэтай яе каланізацыі. Іх войны звычайна былі абароннымі. Нават паход на Маскву ў саставе войска Вялікага княства не быў захопніцкім. Княства адабрала ў Масквы свае землі.

Пацвярджэнне знаходзім у Аркадзя Смоліча: «Ёсць у характары беларуса адна важная рыса, якую згодна прызнаюць усе лепшыя этнографы. Беларус не помніць злога і лёгка даруе сваім крыўдзіцелям. Пачуццё помсты ў ім не развіта, што адрозніваe яго нават ад украінца, дый шмат ад якіх народаў. ...Агульнавядома, што беларус у мінуўшчыне асабліва ваяўнічым настроем ніколі не вызначаўся і часткаю праз гэта, мусіць, у тыя часы, калі адны народы будавалі сваю дзяржаўнасць і незалежнасць на няволі і прыгнечанасці другіх, трапіў ён не ў лік першых — прыгнятаючых, а ў лік другіх — прыгнечаных...»

Не магу пагадзіцца з паважаным даследчыкам: адзначаная рыса не проста важная, яна — самая важная. Проста Смоліч не дажыў да нашага часу, а я ў ім жыву. І мне відавочна, што вось гэтая неваяўнічасць вельмі многае, калі не ўсё, тлумачыць у цяперашнім гістарычным лёсе беларуса.

Нагадаем недалёкую гісторыю грамадзянскай вайны. Па сутнасці амаль уся тэрыторыя Расійскай імперыі была ахоплена бясконцымі паўстаннямі адных супраць другіх. На Беларусі — цішыня. Мо толькі слуцкае антыбальшавіцкае паўстанне ды атрады Булак-Булаховіча, — вось і ўсё. Я, між іншым, ведаю людзей, якія з гэтай нагоды моцна гаруюць.

Кіньце гараваць, даражэнькія, і глядзіце на рэчы праз прызму гісторыі: беларус ніколі не хацеў крыві. Калі гэта дрэнна, то што тады добра? Адсюль, дарэчы, лёгка перакінуць масток у сучаснасць і паразважаць на тэму выбару: чаму ён менавіта такі? Верагодна таму, што народ, ведаючы яго вызначальную

рысу, проста моцна напужалі якраз крывёю. Тыпу: прыйдзе Пазняк і дасць вам «рады»...

Парадаксальна, але лепшага салдата на абшарах імперыі цяжка было знайсці. Беларус як салдат — адражны, цвёрды, трывалы — пастаянна гэта пацвярджаў. Гэты парадокс няцяжка растлумачыць: на вайне беларус быў чалавекам, якому не далі жыць па-свойму, згодна са сваёй мараллю, звычаямі. Ён на вайне іх бараніў. Лагодны і рахманы ў звычайным жыцці, беларус у бойцы становіцца свядома жорсткім і баявым, бо ім рухае пачуццё справядлівасці...

«... Недахват ваяўнічасці, значыць, трэба тлумачыць толькі гэтай лагоднасцю, рахманасцю беларускага народнага характару; беларус рады хоць каму саступіць, абы была згода...»

І гэта так, і гэта — наша. І зноў свярбіць адно і тое ж пытанне: ці дрэнна гэта? Крытыкі «рахманых беларусаў» выказваюцца адназначна — толькі дрэнна. Добра, дапусцім, гэтыя крытыкі прыйшлі да ўлады (калісьці гэта здарыцца). У такім выпадку яны таксама будуць асуджаць імкненне свайго народа да згоды ці ім захочацца ўсё ж мець згуртаваную нацыю?

Любая наша апазіцыя дапускае адну і тую ж памылку: навязвае народу стэрэатып паводзінаў, зусім яму не ўласцівы. Гэта нагадвае спробы нацягнуць хамут на карову. Здаецца, выдатна ведаюць гісторыю і культуру свайго народа, але памылкі — дзіцячыя.

«Народнасць, — зноў цытую Даля, — сукупнасць уласцівасцей і быту, якія адрозніваюць адзін народ ад другога». Сама меней, калі вы лічыце сябе часткай гэтага народа, трэба ведаць гэтыя ўласцівасці. Перш чым займацца палітыкай...

### ЛЕТУЦЕННІКІ, ЯКІЯ СТАЯЦЬ НА ЗЯМЛІ

Беларусь — пераважна паэтычная нацыя. Я так часта сустракаў гэтую патаемную паэтычнасць, у такіх, здавалася б, непрыстасаваных месцах, што гэта проста дзівіла і нараджала пытанне: адкуль гэта? Чаму? Што за гэтым?

Адказ, верагодна, трэба шукаць таксама ў гісторыі. Па сутнасці, толькі каля 100 гадоў уся Беларусь жыла злучанай, адзінай. Увесь астатні час супляменнікі правялі ў войнах з разнастайнымі акупантамі, паўстаннях супраць іх жа, альбо пры каланіяльным рэжыме — ці то польскім, ці маскоўскім. Немагчымасць праявіць сябе ў грамадскім і культурным жыцці, заціснутасць у сваім прыватным жыцці прымушала беларуса шукаць выйсце для творчай энергіі ў жыцці духоўным.

«Мае беларус душу мяккую, з надзвычай развітай уражлівасцю ды фантазіяй. Дзякуючы ім, стварыў ён без ліку цудоўных казак і пругожых высокапаэтычных песняў, насяліў свет вакол сябе разнароднымі духамі, благімі і добрымі, і жыве напалову ў свеце гэтых духаў, не раўнуючы бы як чараўнік...» — не ведаю, як для іншых, а для мяне словы Аркадзя Смоліча гучаць музыкай.

Паглядзіце хоць бы на беларускую літаратуру: у ёй заўсёды на першым месцы быў паэт, а не празаік. Верагодна, гэта нездарма, а адпавядала менавіта нацыянальнаму характару. А самы вядомы наш празаік — Васіль Быкаў — ва ўсіх сваіх аповесцях вырашае адну і тую ж праблему: дабро і зло, вернасць і здрада ў экстрэмальных умовах, у якіх беларусы пражылі ўсю сваю гісторыю.

Важны момант: нацыянальная эліта пераважна арыентавалася на чарговых каланізатараў. Калі была Польшча — была паланізацыя, Расія — русіфікацыя. Хочаш жыць — умей круціцца. Думаю, на гэтай глебе ўзрасла наша знакамітая «трасянка»: вельмі шмат гаспадароў, і ў кожнага свая мова.

А народ быў пакінуты сам на сябе. Штосьці захаваў, многае згубіў, амаль нічога не набыў...

### СЯМ'Я І ГАСПАДАРКА

Цікава паглядзець на беларускую сям'ю даўнейшага часу. Раней сем'і ў беларусаў былі надзвычай вялікія. Іншым разам даходзілі да 30—50 чалавек, бо бацькі, дзеці і ўнукі жылі разам. На чале сям'і стаіць гаспадар, гэта звычайна бацька. Але калі той паказаў няздольнасць да вядзення гаспадарчых спраў, можа быць і старэйшы сын.

Мне здаецца, гэта многае тлумачыць таксама і зараз. Напрыклад, мару пра моцнага гаспадара, «бацьку». Але тут жа бачыцца парушэнне традыцыі. Нагадаю: няздольнага гаспадара замянялі. Увогуле яго ўлада была моцна абмежаваная. Ён, напрыклад, не мог прыняць важнае рашэнне, папярэдне не параіўшыся з іншымі членамі сям'і.

Гаспадыня ўвогуле мела роўны голас з гаспадаром. У яе нават быў свой «маёнтак»: пасаг, грошы, што выручаюцца ад продажу прадуктаў жаночай гаспадаркі, — яек, масла, курэй. Кабета распараджалася ўсім, што ў хаце і вакол яе. Прычым мяшалася і ў мужчынскія справы. Калі мела розум гэта рабіць.

Толькі на крайнім усходзе Беларусі сялянская гаспадарка паходзіла на расійскую. Ва ўсёй астатняй краіне была такая форма землеўладання: зямля належала толькі канкрэтнай сям'і і пераходзіла ў спадчыну дзецям. У Расіі ў той час, нагадаю, панавала абшчына. Зямля належала ўсёй вясковай грамадзе і па меры неабходнасці перадзялялася паміж членамі абшчыны. Калі абагульніць, Беларусь тады па форме землеўладання была больш набліжана да Еўропы, чым да Азіі.

А самая галоўная выснова, якая нам патрэбна: на Беларусі ў вёсцы панавала і валодала зямлёю сям'я і толькі сям'я. Таму і зараз у нас развіты, хоць ужо і моцна пахіснуўся, культ сям'і. «Гарадскія» дзеці не забываюць прыязджаць на ўсе сельгасработы, бо пасадкі бульбы да заколкі кабанчыка. Мне чамусьці здаецца, што справа тут не толькі ў прадуктах, якія дзеці павязуць у горад. Тут нешта большае. Як прынята гаварыць, голас продкаў. Ці духоўная памяць. Назавіце як хочаце...

### РЭЧ У САБЕ

Чалавек, кажуць, сам каваль свайго шчасця. Як быць з народамі? Ды гэтак жа. Бо народ — гэта толькі шмат асобных людзей, якія маюць агульныя рысы. Можа быць, гэта метадалагічна няправільнае выказванне. Але я не вучоны. Я толькі адзін з народа.

«... беларус рад хаця каму саступіць, абы была згода. Зразумела, што пры гэткай лішняй, можа, міралюбівасці гісторыя беларускага народа і не магла скласціся іншым чынам, чым яна склалася. Беларус быў заўсёды вельмі прыдатны на ролю грамадзяніна будучыні, калі справядлівасць запануе паміж народамі, але быў мала падрыхтаваны для змагання за быт, за жыццё, якое ішло вакол яго і яго коштам, але на яго шкоду. Варта яшчэ адзначыць, што беларус зусім не ведае рэлігійнага фанатызму ды шавінізму. Нягледзячы на ўсе старанні розных клерыкальных і шавіністычных груп абудзіць у ім расавую ці рэлігійную нянавісць, гэта зусім блізка не ўдавалася: беларус як найлепей жыве з сваімі суседзямі розных вераў і нацый...» Так лічыць Смоліч.

Калі я быў маладзейшы нават на год-два, то прачытаў бы Смоліча са злосцю. Але, відаць, нейкая мяжа пярэйдзена. Я згодзен з вучоным.

Хто ведае свой шлях? Што сказаць пра чалавека, што пра народ. Якраз народ аказваецца заўсёды мудрэйшым, чымсьці асобны чалавек.

Што дрэннага, калі народ жадае жыць у міры і згодзе? Што не хоча крыві? Што ён мяккі і прыдатны?

Дзіўная ў мяне думка з'явілася: тое, да чаго Захад толькі-толькі прыходзіць, беларусы, аказваецца, ужо неслі ў сябе патэнцыяльна. Проста не іх час быў. Можа, і зараз — не іх. Але гэты народ свайго часу дачакаецца. Узнагарода за пакуты павінна быць.

А той, хто называе нас быдлам... Іх трэба пашкадаваць: не ведаюць, што кажуць. Гэта будзе па-беларуску...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

## ДРУГІ ЗЬЕЗД БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ

26-27 ліпеня 1997 году ў Менску адбыўся Другі Зьезд Беларусаў Сьвету, на якім прысутнічала 184 дэлегаты і 638 гасьцей з былых краін Савецкага Саюзу, Польшчы, Бельгіі, Аўстраліі, ЗША, Францыі і Нямеччыны. Зьезд адбыўся, нягледзячы на ўсе перашкоды з боку дзяржаўных уладаў. У гэтыя дні асабліва цяжка давялося аргкамітэту, які толькі ў 18 гадзін напярэдадні Зьезду даведаўся аб тым, што вышэйшыя ўлады дазволілі правесьці яго ў памяшканьні тэатра музычнай камэдыі, як і было заплянавана раней. Цудоўнае надвор'е ў першы дзень яшчэ больш падымала настрой людзей, якія прыехалі пасьля доўгага расстаньня з Бацькаўшчынай. Яны абдымаліся, віншавалі адзін аднаго...

З агульным дакладам "Праблемы захаваньня беларускай прысутнасьці ў сьвеце" выступіў акадэмік Радзім Гарэцкі, а з судакладамі Васіль Еўдакімаў ды Аляксандр Арціішэўскі, і справаздачным — Ганна Сурмач. Многа віншаваньняў паступіла ў адрас Зьезду ад беларускіх арганізацыяў у Замежжы. З вялікім уздымам заля прымала прамовы Васіля Быкава, Генадзя Бураўкіна, Ніла Гілевіча, Станіслава Шушкевіча, Аляксея Каўкі і многіх іншых. Таксама былі зачытаныя віншаваньні ад Пятра Краўчанкі і Янкі Запрудніка. Прывітаньне-ж прэз. А. Лукашэнкі, якое хацеў зачытаць намесьнік міністра культуры Ўладзімір Рылатка было асьвістана і заглушана крыкамі...

На працягу двух дзён працы Зьезду — прайшлі пленарныя пасяджэньні, прэзэнтацыя новай кнігі Янкі Чыквіна, канцэрт і вечарына "Беларуская гаспадыня". Рэакцыя ўлады да Зьезду была адмоўная — сродкі масавай інфармацыі абвінавацілі "Бацькаўшчыну" ў тым, што яна арганізавала Другі Зьезд БНФ-га накірунку... Знайшлося некалькі беларусаў з Прыднястроўя, Харкава і Кіргізіі, якія падтрымалі ўладу і дэманстратыўна пакінулі залю...

У канцы працы была прынятая Заява ўдзельнікаў Зьезду, рэзалюцыі аб пратэсьце супраць указа прэзыдэнта аб перадачы будынка гуманітарнага ліцэя адміністрацыі прэзыдэнта, дзейнасьці Рады ЗБС "Бацькаўшчына"...

А 28 ліпеня прэзыдэнт Лукашэнка запрасіў па свайму сьпісу некаторых прадстаўнікоў беларускіх суполак /з былога СССР/ да сябе ў рэзыдэнцыю, дзе выказаў сваё абурэньне Зьездам, і паабяцаў, што прыме меры да арганізатараў Зьезду, якія — пакажа час, а пакуль што Зьезд паказаў, што Беларусь жыве і будзе жыць! І Згуртаваньне Беларусаў Сьвету таксама!

*Н. Петухова*

**Ад Рэдакцыі:** Мы даведаліся, што новая Ўправа Згуртаваньня Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына" засталася ў старым складзе... А шкода, бо трэба было выбраць зусім новую Ўправу, бо, на нашу думку, старая Ўправа сябе не апраўдала.

## ЗВЯРТАЮСЯ ДА СЯБЕ І ДА ІНШЫХ

Апошні час пытаюся часта ў сябе: «Чаму гэта я, беларус па крыві і па месцу нараджэння, думаю і размаўляю па-руску?» Сапраўды — чаму? Можа, я з ліку «Иванов, не помнящих родства?» Не! І яшчэ раз — не!

У дзяцінстве я не чуў іншай мовы, чым мова бацькоў, мова Купалы і Коласа. У маёй роднай вёсцы (Асмолавічы, што на Рагачоўшчыне) усе гаварылі па-беларуску. І ў школе я чуў родную мову, а рускую толькі на ўроках рускай мовы і літаратуры. Натуральна, што дыктанты і сачыненні было пісаць лягчэй на беларускай і я пісаў іх на «выдатна». Дзякуючы таму, што ў хаце старшыні калгаса быў патэфон, я, як і іншыя падлеткі, мог слухаць рускія песні. Яны мне падабаліся. Але і ў галаву не прыходзіла, што з-за іх трэба адмаўляцца ад сваёй мовы і сваіх песень.

Але вось у канцы трыццатых, памятаю, становішча стала мяняцца, узяліся за справу сталінскія «рэфарматары». Пачалася ў адміністрацыйным парадку русіфікацыя культурнага асяроддзя. Потым служба ў арміі, вайна... Дахаты мы вярталіся, як бы сказаць, перараджэнцамі ў адносінах да роднай мовы: мы ўжо размаўлялі на нейкім моўным сурагаце, які зараз называюць «трасянкай».

Прыгадваю, што калі пачаў вывучаць у маскоўскім інстытуце замежных моў іспанскую мову, то вельмі пакутваў ад пагардлівых кпінаў аднакашнікаў з нагоды майго вымаўлення, майго беларускага акцэнта. Прышлося прыкласці нямала намаганняў, шмат працаваць над сабой, каб пазбавіцца ад «трасянкі» і стаць нарэшце рускамоўным. Як філолагу мне гэта ўдалося. І калі я сам працаваў ужо выкладчыкам у Барнаульскім педінстытуце і расказваў калегам пра сваё беларускае вясковае паходжанне, то адна выкладчыца са здзіўленнем заўважыла: «Ну ты же и нахватался!» Мне было прыемна чуць такое, бо яна нарадзілася і выхоўвалася ў культурнай, амаль арыстакратычнай рускай сям'і.

Словам, цярністы шлях давялося прайсці, каб упэўнена адчуваць сябе ў рускамоўнай стыхіі. І яшчэ іспанская мова стала для мяне, па сутнасці, роднай мовай, бо выкладаў яе дваццаць з лішнім гадоў у ВНУ. А вось што тычыцца бацькоўскай, беларускай... Яна была, можна сказаць, чужой, іншаземнай. Не было ў ёй патрэбы ні ў інстытуце, ні ў гасцях, ні на вуліцы. Парадаксальная складвалася сітуацыя: замежныя мовы мы вывучалі і навучалі ім іншых, а сваю, родную забывалі.

І вось прышоў час агледзецца і... перавучвацца. Мушу сказаць, што для тых, хто ў дзяцінстве размаўляў на роднай мове і вучыўся ва ўмовах беларускага асяроддзя, моўнае адраджэнне з'яўляецца рэальнай справай. Заходжу, зноў-такі, з уласнага вопыту. Калі стала больш вольнага часу, пачаў зрэдку брацца за пяро, пісаць у газеты. То пра гісторыю сваіх родных Асмолавіч, сваіх дзядоў, то пра свайго знакамітага земляка паэта Міколу Сурначова, які геройчна загінуў у сорак пятым пад Берлінам. І ў нейкі момант адчуў, што пісаць мне лягчэй усё ж на беларускай мове, і лаўлю сябе на тым, што пачаў зноў, як калісь у дзяцінстве, думаць пабеларуску. Як бацыцам нікуды не дзеліся ні руская, ні іспанская, а вось верх над імі бярэ тая, якую спазнаў з малаком маці.

Як гэта яшчэ называецца? Вяртаннем да вытокаў? Так яно і ёсць.

**А. ПЛАДУНОЎ,**
**выкладчык іспанскай мовы,**
**ветэран вайны і працы.**

г. Мінск.
*"Зьвязда*

### ДАЖЫЛІСЯ...

З Кіева, Украіна, перасланая нам ашаламляючая вестка, што дэлегацыя Згуртаваньня Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына" хадзіла да рускага шавініста і ненавісьніка ўсяго беларускага — Уладзіміра Замяталіна, прасіць дазволу правесьці Зьезд Беларусаў Сьвету ў Менску. Гэта-ж сорамна і нізка... Пайшлі прасіць у ворага дазволу "пераначаваць пад лаўкай у сваёй роднай хаце"... Зусім незразумела, на якога чорта трэба было арганізаваць гэты зьезд у акупаваным Менску? Вось да чаго дажыліся беларусы ў Беларусі...

# ВАЙНА ПАСЬЛЯ ВАЙНЫ

### Партызанскімі сьцежкамі

"Наша Ніва"

Вайна пасьля вайны... Партызанка, якая доўжылася дзесяцігодзьдзі... І ўсё гэта — Беларусь 1940-50 гадоў — суцэльная "белая пляма" нашай гісторыі.

"Ты хочаш даведацца пра "Чорную кошку"?" — былы вясковы настаўнік насьцярожана глядзеў на мяне, нібы вывучаючы. Ён, відавочна, вагаўся, але палічыў магчымым сказаць яшчэ некалькі словаў. "Пасьля вайны зброі хапала, але было галодна. Вось хлопцы і ўзрывалі цягнікі й рабавалі іх. Асабліва актыўна яны дзейнічалі ў 1945-46 г. І ў Слоніме была "Чорная кошка", але яе да 1948 году разграмілі... Асабліва шмат партызанаў было на поўначы раёну, дзе іх сяляне падтрымлівалі цэлымі вёскамі. Таму табе яны нічога ня скажуць. Ад вэтэранаў МГБ таксама мала чаго даведаесься — хітрыя яны. А ад былых міліцыянтаў — можаш. Дарэчы, шмат бункераў "лясных братоў" захавалася..."

Я прыслухаўся да парадаў настаўніка й пачаў шукаць былых слонімскіх міліцыянтаў. Неўзабаве выйшаў на аднаго зь іх. Уладзімер Дунай зусім ня быў падобны на "пераможца нацыяналістычных бандаў". Страх быў у яго́ных вачах і, здаецца, гэты страх не пакідаў яго ўсе пасьляваенныя дзесяцігодзьдзі. "Як я Вам раскажу? Вы ж разумееце, што я іх забіваў, а ў іх сваякі жывуць! Ды ня ўсіх мы тады вылавілі..." І ўсё ж ён распавёў мне некалькі эпізодаў з тых пасьляваенных часоў.

Яшчэ адну "пераможцу", вэтэранку КГБ, я здолеў "разгаварыць", скарыстаўшы свой шмат разоў выпрабаваны мэтад. "У нас пасьля вайны была тая ж Чачэнія, — расказвае яна. — Тут пазаставаліся былыя самаахоўцы, якія яшчэ доўга дзейнічалі... Дзесьці на пачатку 50-х гадоў у Слоніме й Жыровічах была раскрытая падпольная арганізацыя (пасьлядоўнікі "Чайкі" 1945-47 гадоў, магчыма, належалі да падпольля Беларускай Незалежніцкай Партыі — С.Ё.). І вось гэтыя старэйшыя падбухторвалі фэзэвушнікаў супраць савецкай улады. Я неяк ішла па вуліцы з савецкім афіцэрам, як да нас падбег хлопчык з жалезным прутом і ланцугом: "Што, курва, з рускімі ідзеш?!" — крыкнуў ён і пачаў нас малаціць... Ён яшчэ дзіця, што зь ім зробіш, ня будзеш жа страляць!.. А пасьля быў справакаваны напад фэзэвушнікаў на міліцыю — каменьнем яны павыбівалі ўсе шыбы. Толькі войскі, якія пад'ехалі на пяці машынах, здолелі іх разагнаць... Калі пачалі разьбірацца, выйшлі на тое падпольле й іх арыштавалі..."

Яна доўга распавядала мне, як "бандыты" абкружалі яе хату, і як удалося разам з бацькам ад іх адстраляцца. Успамінала свайго забітага брата-міліцыянта. Але ні слова не сказала пра зьверствы дзяржбясьпекі, якія, у большасьці выпадкаў, і сталіся прычынаю акцыяў помсты з боку антыкамуністаў. Мне здалося, яна разумее, што была калябаранткай акупацыйнага рэжыму, але пры гэтым будзе фанатычна бараніць ідэалы савецкага мінулага да апошняга. Яна, як і тысячы іншых вэтэранаў КГБ, баіцца прызнаць сваю паразу й зь нянавісьцю кажа пра "нашчадкаў паліцаяў і бандытаў", якія "зноў узьнімаюць галовы". Многія з такіх хацелі б "тряхнуть стариной" і "навести порядок", але й мы ня супраць успомніць партызанскія сьцежкі сваіх дзядоў...

Васіль Струпавец добра дасьведчаны ў справе пасьляваенных партызанкі й ня раз сутыкаўся зь "ляснымі братамі". Зь яго́ных шматгадзінавых аповедаў цяжка вылучыць нейкі кавалак, але паспрабую: "Была пасьля вайны палітычная партызанка, — успамінае В.Струпавец. — За свабоду Беларусі змагаліся хлопцы. Хацелі людзі свабоды й цяпер хочуць. Хацелі, каб іга, тэрору гэтага не было... Вялікая арганізацыя была, па ўсёй Беларусі. Ці былі у іх адзін камандзір, я ня ведаю. Але ж некаму яны падначальваліся.

Вайны з Амэрыкай абавязкова чакалі. Усе напагатове былі, усе людзі. Усе літаральна. Толькі потым 'і хаваліся, чакалі моманту, каб паўстаць супраць гэтай банды савецкай. Тады пайшлі б і вёскі, усе пайшлі і зброя гатовая была. А так цягнулася, цягнулася. Гадоў па чатыры людзі па лясах хадзілі, а іх амністывалі. Дык што рабіць? І вайны няма, і нічога не дачакаліся. Павыходзілі тыя, каго не забілі, павыходзілі..."

Пра доўгае чаканьне вайны з Амэрыкай я чуў ад дзясяткаў старых сялянаў. Яе чакалі ўсе, нават многія з тых, што павінны былі змагацца з "бандытызмам". Адзін былы савецкі партызанскі камандзір, вядомы на Слонімшчыне сваімі рабаўніцтвамі пад час нямецкае акупацыі, пасьля вайны трымаў шчыльны кантакт зь "лянымі братамі". Каб захаваць сваю бясьпеку на выпадак зьмены ўлады, ён падтрымоўваў партызанаў золатам (нарабаваным у жыдоў у вайну), дапамагаў ім легалізавацца.

Вусная партызанская прапаганда была даволі эфэктыўная. Уладзімер Жыгар успамінае: "У нашай мясцовасьці дзейнічала група з 10 чалавек... Яны вялі прапаганду сярод людзей. Заклікалі, каб людзі не ўступалі ў калгасы, бо хутка будзе вайна з Амэрыкай. І многія іх слухалі. Некаторыя нават думалі, што калі яны ня пойдуць у калгас, дык новая ўлада аддзячыць ім за гэта — дадуць нейкую ўзнагароду... Калгас у нас стварыўся толькі пасьля таго, як групу гэтую разьбілі".

Лічыць, што тысячы людзей прымусіла пайсьці ў лес толькі нянавісьць да бальшавіцкага панаваньня, было б памылкаю. У кожнага "ляснога брата" была нейкая свая прычына, якая змушала яго пераходзіць на нелегальнае становішча. Ідэйных антыкамуністаў было мала, але іх колькасьць хутка павялічвалася. "Палітасьвету" нелегалы атрымоўвалі ў лесе, слухаючы ангельскае радыё ды чытаючы партызанскую прэсу.

Неяк, працуючы ў архіве, я натрапіў на цікавы дакумэнт — пратакол сакрэтнага пасяджэньня бюро ЦК КП(б)Б ад 2 сьнежня 1947 году. У пастанове адзначалася: "... органы МУС, пракурорскія і судовыя работнікі ў заходніх абласьцях рэспублікі ў шэрагу выпадкаў ухіляюцца ад аказаньня канкрэтнай дапамогі органам МГБ па ліквідацыі нацыяналістычнага падполля і яго ўзброеных бандаў. Недастаткова праводзяць працу па барацьбе з рабаўніцкімі бандамі і іншымі крымінальна-злачыннымі элементамі, падрыўная праца якіх за апошні час асабліва ўзмацнілася, у шэрагу выпадкаў праводзіцца разам з нацыяналістычнымі элемэнтамі і перарастае ў палітычныя акты" (НА РБ, ф.4, воп.61, спр.479, арк.4).

Сапраўды, пасьля вайны дзейнічалі ня толькі "палітычныя" партызаны, але было шмат і крымінальных бандаў (толькі за 1946 год у БССР было ліквідавана 40 такіх груп, а 2212 іх удзельнікаў арыштавана). І паступова, вольна ці пад ціскам абставін, дзейнасьць некаторых пачала набываць палітычны характар. Напрыклад, на Слонімшчыне дзейнічала група Пятра Бухарэўскага, былога начальніка штаба савецкага партызанскага атрада імя Панамарэнкі, якая займалася рабаўніцтвам сялянаў ды дзяржаўных крамаў. Гэтыя людзі спачатку хаваліся ад фронту ды ня мелі ніякай ідэалёгіі. Аднак, пачуўшы легенду пра Амэрыку ды чаканую вайну, яны вырашылі здабыць на будучыню прыхільнасьць "новых уладаў" і пачалі рабіць напады на савецкія ўстановы, паліць трактары. Зразумела, што рабаўніцтваў яны не спынялі...



У былога савецкага партызана, а пасьля ўчастковага міліцыянта Дземідовіча была прыгожая жонка. І вось яна загуляла зь нейкім савецкім афіцэрам, капітанам ці маёрам. Калі Дземідовіч даведаўся пра гэта — застрэліў каханка жонкі й пайшоў у лес... На нелегальным становішчы ён быў да 1950 году. Аднойчы на нейкім хутары яго засёк сякераю агент МГБ... Калі прыехала міліцыя, труп зьнік... Пайшлі за крывавым сьледам і адшукалі яшчэ жывога Дземідовіча ў жыце. Яго прывезьлі да сельсавету й там дабілі, каменем па грудзях... Вось такая трагічная гісторыя аднаго са слонімскіх "лясных братоў". Другі ведамы партызан — атаман Лабовіч, — загінуў падобнай сьмерцю.

Сьцяпан Лабовіч быў актывістам КПЗБ. У вайну некалькі тыдняў служыў у паліцыі, пра што шчыра й распавёў у ваенкамаце ў 1944 годзе, калі ішла мабілізацыя ў Чырвоную армію. Яго папрасілі застацца й пачакаць, а астатніх пагналі на вакзал. Зразумеўшы, што яму пагражае, Лабовіч уцёк у лес, арганізаваў партызанскі атрад. Дзесьці ў 1951 годзе яго атруціў агент МГБ Куляшэвіч, на хутар якога Лабовіч зайшоў пераначаваць... Неўзабаве пасьля таго зь лесу прыйшлі людзі й моцна зьбілі Куляшэвіча. Празь месяц ён сканаў.

Дзяржбясьпека шырока выкарыстоўвала ў барацьбе з антысавецкай партызанкай сваю агентуру. Але акцыі помсты не прымусілі сябе доўга чакаць: агенты бязьлітасна нішчыліся "лянымі братамі". Тады чэкісты пасьля выкананьня "заданьняў" пачалі перакідваць сваю агентуру ў іншыя раёны, каб ратаваць ад расправы "опытные кадры". Іншы раз, МГБ засылала свайго чалавека ў лес з мэтай аб'яднаньня асобных групак і асоб ды выяўленьня іх "пособников". Як сьведчаць сяляне, на Слонімшчыне такі атрад арганізаваў нейкі "Сібірак-Ваня", які аказаўся "правацелем". У 1950 г. ён здаў МГБ свой атрад і вазіў па вёсках чэкістаў, паказваючы, хто яго карміў, даваў начлег, дапамагаў зброяй...

На пачатку 50-х гадоў, пасьля шматразовых амністыяў, у Харашэвіцкі сельсавет прыйшло паўсотні "лясных братоў". Яны склалі зброю перад на сьмерць перапалоханым старшынём і аб'явілі, што паверылі савецкай уладзе й вырашылі спыніць бессэнсоўную барацьбу. Ім даравалі й распусьцілі па хатах. Праз колькі месяцаў іх усіх вывезьлі ў Расею, адкуль, мабыць, ніхто ўжо і не вярнуўся... **Сяргей Ёрш**



*На здымку: Партызанскі плякат.*

## Ельцын прапануе правесці асенні рэферэндум аб лёсе маўзалея Леніна

Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын прапанаваў правесці увосень усенародны рэферэндум аб лёсе Маўзалея. З такой ініцыятывай ён выступіў у пятніцу ў Санкт-Пецярбургу на пасяджэнні савета па культуры і мастацтву пры кіраўніку дзяржавы. Б. Ельцын выказаўся за пахаванне ў зямлі заснавальніка камуністычнай партыі Уладзіміра Леніна, якое знаходзіцца ў Маўзалеі.

«Камуністы, зразумела, будуць супраць гэтага ваяваць, але я прывык з імі ваяваць», — заявіў прэзідэнт РФ. Паводле слоў прэзідэнта, У. Ленін «многа бяды пакінуў Расіі, але ж гэта наша гісторыя».

Кіраўнік дзяржавы прапанаваў таксама «ачысціць Красную плошчу ад налёту могілак». Пры гэтым ён падкрэсліў, што «зрабіць гэта трэба без бульдозера і экскаватара, а паступова і цывілізавана».

Ён прапанаваў, у прыватнасці, у якасці аднаго з варыянтаў прадаставіць спецыяльны пантэон на Новадзявочых могілках для тых, хто цяпер пахаваны на Краснай плошчы. **Інтэрфакс.**

## «ПАТРЫЯРХ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ ПАПЯРЭДЖВАЕ, ШТО ПАХАВАННЕ ЛЕНІНА РАЗ'ЯДНАЕ РУСКІ НАРОД»

«Патрыярх Рускай праваслаўнай царквы Алексій II выказаўся супраць паспешлівасці ў пахаванні заснавальніка савецкай дзяржавы Уладзіміра Ульянава-Леніна (...) і папярэдзіў, што размова ідзе аб палемічнай праблеме, што раздзяляе грамадства. Заява патрыярха, даволі паважанай маральнай фігуры ў Расіі, азначае паражэнне плану хуткага пахавання Леніна, абвешчанага Ельцыным.

(...) Праект Ельцына пахаваць прах Леніна — гэта ідэя яго маладога энергічнага прыбліжанага Анатоля Чубайса. Пазіцыя царквы мела рашаючае значэнне.

(...) «Ідэя пахавання Леніна з'яўляецца глупствам, якое яўна супярэчыць любому імкненню да згоды ў грамадстве, — заявіў нашай газеце палітолаг Аляксандр Цыпко, першы расійскі антыкамуніст, які ў 1989 годзе напісаў артыкул, што паставіў пад сумненне фігуру Леніна. — Горш за ўсё, што знасіць помнікі і хаваць і выцягваць з зямлі ворагаў — гэта расійская гістарычная традыцыя, якую свядома практыкавалі бальшавікі».

**«Вангуардыя»** *(Іспанія)*

# Ліст дзеячаў беларускай культуры і прадстаўнікоў грамадскасці ў абарону Беларускага фонду Сораса

ЮНЭСКА,
Генеральнаму сакратару

Кіраўніцтва Беларусі санкцыянавала праверку фінансавай дзейнасці Беларускага фонду Сораса, якую абставіла галаслоўнымі палітыканскімі абвінавачваннямі. Фонду выстаўлены штраф у 2,9 мільёна доляраў — быццам бы за нявыплату падаткаў (а рахунак Фонду заблакаваны), хаця дабрачынная дзейнасць у цывілізаваным свеце ніякаму падаткаабкладанню не падлягае.

Мэтай усёй гэтай акцыі было, па-першае, сарваць дармовы куш з недзяржаўнай арганізацыі; па-другое, падставіць пад "дамоклаў меч" само функцыянаванне гэтай арганізацыі, якая працуе на карысць нацыянальнай культуры; па-трэцяе, запусціць у грамадскі абыход дэзінфармацыю дзеля прапагандысцкага прыбытку. Падобныя захады магчыма ажыццяўляць толькі ў краіне, дзе беззаконне сталася нормай для ўладаў.

Зразумела, што ні з ідэалагічнай падкладкаю праверкі, ні з яе вынікамі (казуісцкая спасылка на... адсутнасць у рэспубліканскім заканадаўстве адпаведнага юрыдычнага палажэння пра дабрачынныя арганізацыі робіць саміх дабрачынцаў вінаватымі!) Фонд катэгарычна не згадзіўся і накіраваў афіцыйныя пярэчанні ў падатковую інспекцыю. 15 траўня заснавальнік Фонду спадар Джордж Сорас даслаў ліст прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Лукашэнку з просьбай спыніць пераслед дабрачыннай арганізацыі. У той жа дзень было абвешчана пра згортванне дзейнасці Фонду.

Больш як за чатыры гады свайго існавання Беларускі фонд Сораса дапамог здзейсніць мноства непасільных для дзяржавы праграмаў, скіраваных на развіццё беларускай культуры і адукацыі, забяспечыў шмат дзяржаўных і недзяржаўных установ сучаснай відэа-, электроннай і іншай тэхнікай, а таксама паспрыяў лячэнню і аздараўленню насельніцтва (найперш дзяцей), якое пацярпела ад чарнобыльскай катастрофы.

Цяжкія наступствы ад згортвання дзейнасці Фонду відаць ужо зараз, і яны шматкратна павялічваюцца з кожным днём. Замест свайго прамога абавязку — падтрымліваць культуру — дзяржава наўмысна вынішчае адно з жыватворных рэчышчаў такой падтрымкі. Ніякага аб'ектыўнага апраўдання гэткай палітыкі няма і быць не можа.

Таму мы заяўляем поўную нязгоду з санкцыямі ўлад супраць Беларускага фонду Сораса і рашуча патрабуем спыніць пераслед ягонай дзейнасці. Мы не маем права змаўчаць пра чарговы здзек з нашай культуры і з самой годнасці Беларусі ў свеце.

*Ліст падпісалі 230 чалавек.*

# ГУМАНІТАРНАЯ ДАПАМОГА ПАСТАЎЛЕНА ПАД КАНТРОЛЬ ДЗЯРЖАВЫ

***Як паведаміла прэс-служба Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, кіраўнік дзяржавы вывучыў паступленне гуманітарнай дапамогі ў краіну.***

Аддаючы належнае дабрачыннай дзейнасці замежных арганізацый і грамадзян замежных краін за бязвыплатную дапамогу, якую яны пастаўляюць, у той жа час адзначана, што атрыманне гэтай дапамогі, на жаль, пацягнула за сабой шматлікія злоўжыванні, у тым ліку ў мэтах асабістага абагачэння. Часта ў выглядзе гуманітарнай дапамогі пастаўляліся тавары, выкарыстанне якіх магло нанесці ўрон здароўю грамадзян Рэспублікі Беларусь. Пад выглядам гуманітарнай дапамогі ў краіну ўвозілася прадукцыя, якая не мела да яе ніякіх адносін. Частка гуманітарнай дапамогі рэалізоўвалася самімі грамадскімі арганізацыямі праз сетку камерцыйных магазінаў і ішла на абагачэнне кіраўніцтва гэтых фондаў, адзначыла прэс-служба.

Гуманітарная дапамога не заўсёды размяркоўвалася справядліва і даставалася часам не самым бедным грамадзянам, мелі месца таксама валакіта і бюракратызм. Усё гэта выклікала масу зусім апраўданых і абгрунтаваных скарг і зваротаў у дзяржаўныя органы як з боку асобных грамадзян, так і з боку замежных арганізацый, якія займаліся пастаўкай гуманітарнай дапамогі.

У мэтах ліквідацыі такіх негатыўных фактаў Прэзідэнт краіны прыняў цэлы комплекс мер па навядзенню парадку ў сферы паступлення і размеркавання гуманітарнай дапамогі з-за мяжы. Рэалізацыя гэтых мер ускладзена на Дэпартамент па гуманітарнай дапамозе пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, які ўзначаліў памочнік Прэзідэнта па асобых даручэннях В.Ф.Кучынскі.

Стварэнне такога дэпартамента ні ў якім разе не спыняе дзейнасці дабрачынных арганізацый і не перашкаджае паступленню гуманітарнай дапамогі ў Рэспубліку Беларусь. Гуманітарная дапамога нам патрэбна, у першую чаргу, у выглядзе лякарстваў, медыцынскага абсталявання, экалагічна чыстых прадуктаў харчавання, падкрэслена ў паведамленні прэс-службы.

Гэты працэс будзе знаходзіцца пад пастаянным кантролем дзяржавы, і задачы Дэпартамента па гуманітарнай дапамозе — абараніць інтарэсы грамадзян пры атрыманні гуманітарнай дапамогі і забяспечыць у гэтай справе законнасць, правапарадак, а таксама дапамагчы шматлікім замежным фондам, якія аказваюць гуманітарную дапамогу, каб яна дайшла да адрасата.

*БелТА.*

"ЛіМ"

# ЛІЦЭЙ ПРАТЭСТУЕ

1 ліпеня сп. Лукашэнка выдаў распараджэнне аб перадачы ў аператыўнае кіраванне Упраўлення справамі прэзідэнта РБ шэрагу будынкаў у Мінску. У прыватнасці, дом 21 па вуліцы Кірава, дзе месціцца ліцэй Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра. Ліцэісты і іхнія бацькі зрэагавалі на гэтую навіну акцыяй пратэсту. Выйшлі на вуліцу перад ліцэем з плакатамі, у якіх выказалі сваё стаўленне да намеру сп. Ціцянкова пашырыць свае ўладанні. А ў аўторак у ліцэі адбылася сустрэча з прэсай. Вёў прэс-канферэнцыю прадстаўнік бацькоўскага камітэта Уладзімір Арлоў, ён жа разам з дырэктарам ліцэя Уладзімірам Коласам адказваў на пытанні журналістаў. У прыватнасці, было адзначана, што ліцэй — адзіная цалкам беларускамоўная сярэдняя навучальная ўстанова. Шэраг асаблівасцяў робяць ліцэй установай унікальнай, увогуле адзінай у свеце. Закрыццё ліцэя (а высяленне з будынка фактычна азначае закрыццё) адкіне справу адраджэння беларускай мовы на некалькі дзесяцігоддзяў, а мо і на неакрэслены тэрмін. Ліцэй знаходзіцца ў месцы не толькі прэстыжным, што ўжо само сабою падкрэслівае ягоны статус, але і вельмі зручным: цэнтр горада, блізка вакзал. Зручна вучням з усіх раёнаў горада, а таксама з мінскіх ваколіц. Гэты будынак заўжды, ад пабудовы, быў навучальнай установай. Ён добра прыстасаваны для навучальнага працэсу. У такіх выпадках кажуць, што вучыцца дапамагаюць самі сцены.

Прэзідэнцкае распараджэнне не было для ліцэістаў, іхніх настаўнікаў і бацькоў нечаканасцю. Ужо даўно ў ліцэй наведваліся нейкія людзі, якія па-гаспадарску аглядалі будынак, але адмаўляліся прадстаўціца. На лісты, якія кіраўніцтва ліцэя дасылала з гэтай нагоды ў Адміністрацыю прэзідэнта РБ (бо было падазрэнне, што гэтыя наведвальнікі — адтуль), ніякіх адказаў не было. І вось з'явілася памянёнае распараджэнне ад 1 ліпеня, якое, дарэчы, трапіла ў ліцэй не па афіцыйных каналах...

Сёння ініцыятараў пратэсту спрабуюць пераканаць, што нічога страшнага не адбываецца. Ну, маўляў, пераедзе навучальная ўстанова ў іншы будынак — і ўся справа! Нават новы адрас называюць — Славінскага, 12. Але, як стала вядома, кіраўніцтва ўстановы, што на Славінскага, 12, атрымала ад Адміністрацыі прэзідэнта гарантыі (праўда, на словах...), што іх нікуды перасяляць не будуць. Такім чынам, проста ідзе не надта сумленная гульня, каб збіць хвалю пратэсту, пазбегнуць грамадскага рэзанансу і рэакцыі міжнародных арганізацый, накшталт Хельсінкскага камітэта. Кіраўніцтва ліцэя разам з бацькоўскім камітэтам правялі аператыўную юрыдычную экспертызу распараджэння прэзідэнта РБ і прыйшлі да высновы, што яно парушае Закон Беларусі аб адукацыі, які забараняе скарачэнне навучальнай базы і пагаршэнне ўмоў адукацыі, і Закон Беларусі аб уласнасці: будынак — уласнасць ліцэя, а ліцэй, у сваю чаргу, уваходзіць у структуру Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра.

На момант правядзення прэс-канферэнцыі спроба настаўнікаў і бацькоў ліцэістаў сустрэцца са сп. Ціцянковым і абмеркаваць з ім сітуацыю поспеху не мела. Супрацоўнік апарату прэзідэнта РБ, які назваўся "работником приемной", сказаў, што наўрад ці хтосьці з уплывовых асоб Адміністрацыі зможа сустрэцца з імі ў гэтым месяцы. Можа, недзе ў жніўні...

На прэс-канферэнцыі было паведамлена, што можа скласціся сітуацыя, калі ліцэй перастане быць дзяржаўнай установай. Бо, здаецца, усё ідзе да гэтага. Дакладней, у гэты бок вядзе ўлада.

З заявамі супраць рэалізацыі згаданага распараджэння выступілі шэраг партый — БНФ, АГП, Грамада, а таксама Беларускі Хельсінкскі камітэт. Чакаецца рэакцыя з-за мяжы, інфармацыя туды пайшла.

Журналістаў азнаёмілі з Адкрытым лістом агульнага бацькоўскага сходу да прэзідэнта РБ; з тэкстам распараджэння прэзідэнта РБ, з якога ўсё пачалося; са Зваротам да беларускай інтэлігенцыі.

Пакуль ішла прэс-канферэнцыя, дзеці, настаўнікі і бацькі стаялі на вуліцы з плакатамі. Спачатку тры міліцыянеры з маёрскімі і падпалкоўніцкімі зоркамі на пагонах спрабавалі пераканаць пратэстантаў разысціся. Затым з'явіліся "малодшыя чыны" з пагрозамі прымяніць сілу. А потым — быў дождж. Людзі пайшлі ў будынак, каб захаваць ад дажджу свае папяровыя плакаты. Яны яшчэ спатрэбяцца.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**



# КАМУНІКАТ
## Прэзыдыума Рады Б.Н.Р.

Гэтым паведамляецца, што чарговая сэсія Рады БНР. адбудзецца 30 і 31-га жніўня 1997 г. (Labor Day weekend) у Hyatt Regency Hotel, New Brunswick, N. J., Tel. № (908) 873-1234.

Заклікаюцца ўсе радныя і кандыдаты ў радныя прыняць актыўны ўдзел у сэсіі.

Мы апынуліся перад фактам бальшавіцкай анігіляцыі дэмакратычнай сыстэмы ў Беларусі. Правы чалавека абсалютна не шануюцца, эканамічная руіна на відавоку...

На гэтай сэсіі мы распрацуем плян рэакцыі дыяспары на бальшавізацыю Беларусі ды выбярэм новы Экзыльны Урад. Пачатак сэсіі а 9-ай гадз. раніцы ў суботу, 30 жніўня.

По дакладнейшыя інфармацыі трэба зьвяртацца да Сп. Я. Азаркі, 154 Emerson Rd., N. J. 08873; Тэль. (908) 545-6654.

За Прэзыдыум Рады БНР.
*Др. Барыс Рагуля*

# *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

Высока Паважаны Рэдактар!

21-га красавіка г.г. у № 15-16 беларуская дэмакратычная газэта «Наша Ніва», што выдаецца ў Менску, перадрукавала вялікоднае прывітаньне ад Я. М. Мітрапаліта Ізяслава вернікам БАПЦ і праваслаўным беларусам, што імкнуцца да свае роднае царквы.

Узноўленая ў Беларусі савецкая ўлада палічыла зьмест гэтага прывітаньня за пагрозу ейнай дагоднай Маскве і згубнай Беларускаму Народу палітыцы ды акрываючыся ашуканскімі правамі абвесьціла галоўнаму рэдактару газэты «Наша Ніва» папярэджаньне аб магчымасьці спыненьня выдавецтва, копію якога мы да гэтага ліста далучаем. *(Дарэчы, ліст пісаны ў Беларусі беларускай газэце ў маскоўскай мове, Рэд)*

Як адзначана ў далучанай таксама копіі ліста Міт. Ізяслава да галоўнага рэдактара газэты «Наша Ніва» сп. Сяргея Дубаўца БАПЦ уважае за ейнае права і маральны абавязак нятолькі настаўляць паасобных людзей, але і рэагаваць на ўчынкі дзейнікаў, што на жыцьцё гэтых самых людзей уплываюць.

Спадзяемся, што Вы згодныя з гэтай думкай і падтрымаеце наш пратэст супраць памкненьняў сёньняшніх узурпатараў абсалютнае ўлады ў Беларусі задушыць свабоду сумленьня і слова, за што Вам загадзя дзякуем.

Сьцеражы, Божа, Беларускі Край!

З глыбокай пашанай, *Барыс Данілюк.*

Паважаны Спадар Рэдактар!

Гэтым лістом я афіцыйна прашу прабачэньня ў Старшыні Рады БНР Сп. Я. Сажыча за недакладнасьць, што была ў маім артыкуле "Новый Союз или аннексия" ў спасылцы на яго выступленьне ў Менску на сьвяткаваньні 75-х угодкаў Акту 25 Сакавіка. Вядома, трэба чуць самому, калі спасылаешся на чыесьці словы, і ня верыць пачутаму, як кажуць, з другіх або трэцьціх вуснаў.

Сёньня, калі ў Беларусі фактычна вярнуўся ранейшы таталітарны рэжым, ідэалы 25 Сакавіка, дзяржаўныя і палітычныя прынцыпы БНР зноў зьяўляюцца надзвычай важнымі і актуальнымі. Пазіцыя Рады БНР, выказаная ў адпаведных зваротах да беларускага народу і сусьветнай супольнасьці, магла-б мець пэўны рэзананс і прынесла-б свой плён. Таму хочацца пажадаць Радзе БНР большай актыўнасьці менавіта ў гэты час.

*Ванкарэм Нікіфаровіч.*

"Беларускі Дайджэст" чакае Вашае ахвяры на Выдавецкі Фонд!!!



IN MEMORIAM





Сьвятой Памяці

## Натальля Арсеньнева

25-га ліпеня 1997 году на 95-м годзе жыцьця памерла Натальля Арсеньнева ў горадзе Рочэстэр, штат Нью-Ёрк, ЗША. Паховіны адбыліся ў панядзелак. Беларуская выдатная паэтка жыла разам з сынам Уладзімерам і ўнучкай Натальляй. Н. Арсеньнева пахавана ў Рочэстэр, дзе спачывае ейны нябожчык муж, гэнерал Францішак Кушаль.

Няхай Успамін пра Яе вечна жыве ў сэрцах тых, хто Яе ведаў!

Няхай будзе пухам Ёй амэрыканская зямля!

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!!!

*Стыхія*

## Па Стаўбцоўшчыне пранёсся ўраган

Непрадказальнасць надвор'я сёлетніх вясны і лета пацвердзілася яшчэ раз, у мінулы панядзелак. Нішто, здавалася б, не прадвяшчала ўзнікнення надзвычайнага становішча. Пасля працяглых халадоў пацяплела, прыпарвала. І з паўдня ўжо пачалі збірацца хмары. Шквал у гадзін сем вечара наляцеў раптоўна. Стала цёмна, як ноччу, паліўся дождж. Штохвілінна мільгацелі маланкі, але раскаты грому заглушаў незвычайнай моцы вецер. Долу гнуліся дрэвы, у суцэльнай кругаверці ляцелі лісце і зламаныя галінкі дрэў...

Бура бушавала нядоўга, але шкоды нарабіла шмат. Ніхто і не прыпомніць у нашай мясцовасці такой сілы ўрагану. Паваленыя, паламаныя вывернутыя з коранем магутныя дрэвы, знесеныя і пашкоджаныя дахі. Гэта адно толькі ў горадзе відаць маштабы незвычайнай буры. Пацярпелі і ледзьве не ўсе населеныя пункты. Асабліва, як перадаюць, шмат разбурэнняў у Вараціўчы. Ураган валіў нават бетонныя слупы. Амаль паўсюдна па раёну была часова адключана электраэнергія, пашкоджана тэлефонная сувязь.

Як паведамілі са штаба грамадзянскай абароны ў аўторак, 24 чэрвеня раніцай, камісія па надзвычайных сітуацыях вядзе ўдакладненне маштабаў разбурэння. Задзейнічаны ўсе сілы электрычных сетак, сувязі дзеля хуткага аднаўлення жыццязабеспячэння населеных пунктаў. Відаць, што страты нанесены і пасевам сельгаскультур. Праўда, па даных са штаба ГА, на шчасце, ахвяр не было, 6 чалавек з траўмамі трапілі ў бальніцу.

Удар стыхіі ў гэты вечар прынялі на сябе ў асноўным Нясвіжскі, Стаўбцоўскі і Валожынскі раёны. Сіла ветру дасягала 25 метраў у секунду.

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

## Травеньская кантата 1997 года

*О, краю мой! Тваёй душы вымоўнай*
*Зноў зычаць лёс — замоўкнуць і знямець.*
*І зноў твой сын пытае маліто ўна:*
*"За што?" І зноў не можа зразумець.*

*Ён ведае, што гэта ўсё нячыста*
*І не па-людску... А з каго спытаць?*
*З каго спытаць за дзікае злачынства?*
*За здзек — такі, што сэрцу не стрываць?*

*З каго спытаць?.. З няскобленага хама,*
*Што захапіў улады ладны кус?*
*Але хіба ён знае шлях да храма,*
*Куды на споведзь ходзіць беларус?*

*З каго спытаць? З бяздарнага акцёра,*
*Што гарлапанствам да вышынь пралез?*
*Але ж яму не ў гора наша гора.*
*Яго няшчасцем нашым не кранеш.*

*З каго спытаць? З былой партыйнай выжлы,*
*Усмакаваўшай калісь сытны харч?*
*Хто мы такія і адкуль мы выйшлі —*
*Ёй сто і тысячу разоў начхаць.*

*З каго яшчэ? З няшчаснага прапойцы,*
*Што ачмурэў наскрозь, да патрахоў?*
*Ці з дзеўкі Рынды, што ў шалёнай польцы*
*Згубіла ўбор свой, сшыты з лапухоў?..*

*О, краю мой, скажы свайму ты сыну,*
*Што ў нас, гадоў таму сто трыццаць пяць,*
*У невымерна цяжкую часіну,*
*Яго прапрадзед знаў, з каго спытаць.*

* * *

*Але ж і халуі! Ну й халуі!*
*Прыслугачы з пароды самых рэдкіх.*
*Паселі на дзяржаўных табурэтках*
*І мераюць, ці шмат раба ў крыві.*

*У рабства цар заўсёды сілай гнаў.*
*Але каб, выракшыся ўласнай долі,*
*Ісці самохаць у ярмо няволі, —*
*Такога свет яшчэ ў вяках не знаў.*

* * *

*Свабоду я, кажаце, мушу здабыць?*
*А што гэта значыць на справе?*
*І што я ў свабодзе той буду рабіць?*
*Служыць, як і зараз, дзяржаве?*

*А мо за свабоду я тым заплачу,*
*Што думаць пачну за начальства?*
*Дык думаць, шаноўныя, я не хачу*
*І сам за сябе, выбачайце.*

* * *

*Будні дзень. Па нараду — ты сееш авёс.*
*А на справе, азызлы ад п'янкі,*
*Ты сядзіш каля крамы. Чакаеш: авось*
*Хтосьці надыдзе, налье хоць паўшклянкі.*

*Што з табою зрабілі, браток-хлебароб!*
*Кім ты стаўся? Пагляньса, які ты!*
*Як бяздольнік-жабрак, без пуцін, без дарог,*
*Неадольным знявер'ем дабіты.*

*А я ж помню цябе: ты чапляўся яшчэ*
*За зямельку, за хату, за памяць,*
*За крывавы мазоль, што смыліць і пячэ,*
*За абраз, каб душу не запляміць.*

*І да роднага слова, да мовы дзядоў —*
*Мілагучнай, духмянай, святлістай —*
*Ты гарнуўся душой і бярог ад вятроў,*
*Каб не стала тапаляй бязлістай.*

*Як жа выйсці, пытаеш ты, з гэтай бяды?*
*З гэтай скрухі глухой, беспрасветнай?*
*Шлях адзін: не ступай у чужыя сляды*
*На бацькоўскай зямлі запаветнай.*

* * *

*Кажаце: гэта — па волі народа*
*Вы завініліся подласць рабіць?*
*Што ад народа атрымана згода*
*Усе беларускія школы дабіць?*

*Ну, крывадушнікі! Ну, славаблуды!*
*Знаюць і дзеці, чаму і калі*
*Згоды пытаюць пілаты і юды*
*У галадранцаў Забранай Зямлі.*

* * *

*Родная мова! Ты воч не расі!*
*Лёс твой — свабода.*
*Іменна ты незалежнасць дасі*
*Духу народа.*
*Ты — чыя веліч, і моц, і краса*
*Толькі ўзыходзяць.*
*Ты — чыя слава наперадзе ўся*
*У тысячагоддзях.*

* * *

*Прадажнікі, што на ганебны торг*
*Нясуць наш гонар, волю і прастор,*
*Павінны знаць, што ўсіх і паімённа,*
*Тысячавусна, тысячапраклённа*
*Іх праклянуць за гэту здраду людзі,*
*А самым страшным пакараннем будзе,*
*Што дзецям іх, каб ганьбу з роду зняць,*
*Імя па бацьку прыйдзецца мяняць.*

* * *

*І ён рашыў, што гэна "перамога"*
*Яго наступных "перамог" гарант*
*І што яму адкрылася дарога —*
*Ураз набыць усерасійскі ранг.*

*Ах, чуў бы ён, як рогатам абвальным*
*Затрэслася Масква: "Вот это честь!..*
*Увидишь скоро, шут провинциальный,*
*Какой твой ранг и кто такой ты есть!.."*

* * *

*О, магутны, міласэрны,*
*Божа-Збаўца, Божа наш!*
*Бачыш гнюсныя паперы,*
*Што кладуцца ў саквояж?*
*Спапялі агнём іх белым*
*І развей на вятры тло!*
*Быццам тут і не смярдзелі.*
*Быццам іх і не было.*

* * *

*Браты! Ачніцеся! Няўжо вам*
*Не чутна, хоць бы і скрозь сон,*
*Як прамаўляе божым словам*
*Да вашых сэрцаў вешчы звон?*
*Як кліча ён знайсці свой Кіцеж,*
*Паўстаць з прадоннай нематы...*
*Дык не праспіце ж, не ўпусціце ж*
*Час, Богам дадзены, браты!*

1997, травень.

## Хваробы, якія нас падсцерагаюць

На зыходзе XX стагоддзя большасць зямлян, як высвятляецца, памірае не ад інфаркту альбо раку, а ад заразных хвароб. У мінулым годзе эпідэміі забралі жыццё 17 мільёнаў чалавек, у тым ліку 9 мільёнаў дзяцей. Урачоў усяго свету асабліва турбуе, што эпідэміі былі выкліканы дагэтуль малавядомымі мікробамі, альбо мікробамі, якія змаглі прызвычаіцца да вакцыны. У Сусветнай арганізацыі аховы здароўя ў Жэневе лічаць, што барацьбу з заразнымі хваробамі прыйдзецца працягваць і ў наступным стагоддзі. Напрыклад: у ЗША, па некаторых даных, СНІД з'яўляецца асноўнай прычынай смерці мужчын ва ўзросце ад 20 да 24 гадоў. Лічыцца, што да 2000 года СНІДам захварэюць 20 мільёнаў чалавек.

У дакладзе Сусветнай арганізацыі аховы здароўя падкрэсліваецца, што палова жыхароў нашай планеты падвергнута рызыцы эндэмічных захворванняў. Сярод асноўных «забойцаў» названы вострыя рэспіраторныя захворванні, ад якіх штогод памірае 4,4 мільёна чалавек, дыярэйныя хваробы — 3,1, туберкулёз — 3,1, малярыя — 2,1, гепатыт Б — 1,1 мільёна. Больш мільёна жыццяў забіраюць СНІД і адзёр.

Але ці ёсць падставы для аптымізму? Так. Нядаўна адзін французскі часопіс надрукаваў прагнозы японскіх вучоных адносна будучага медыцыны. Дык вось, у 2005 годзе, лічаць яны, у свеце павінны вырабіць штучную кроў. Праз год, упаўне магчыма, з'явіцца сродак, з дапамогай якога можна перамагчы СНІД. У 2011 годзе вучоныя абяцаюць пазбавіцца ад хваробы Альцгеймера (рассеяная ўвага, якой пакутуе былы прэзідэнт ЗША Р. Рэйган). У 2019 годзе японцы думаюць стварыць штучнае вока. А яшчэ праз год урачам удасца перамагчы шызафрэнію.

## Перамовы: вынік нулявы

**Перамоўны працэс паміж прадстаўнікамі Адміністрацыі Прэзідэнта і дэпутатамі Вярхоўнага Савета XIII склікання можа быць згорнуты, так і не пачаўшыся па сутнасці.**

Калі першы этап быў даволі плённым і ўсяліў надзею на цывілізаванае вырашэнне канфлікту паміж афіцыйнымі ўладамі і апазіцыяй, то зараз гэтая надзея рызыкуе трапіць у разрад марных. Другі раунд перамоў закончыўся безвынікова. Бакі нават не сталі сустракацца ў пятніцу, палічыўшы гэта бессэнсоўным, хаця папярэдне пасяджэнне камісіі і планавалася.

У чацвер вечарам кіраўнік місіі ЕС Мэцью Расел заявіў аб немэтазгоднасці далейшых пасяджэнняў пры такіх абставінах. Ён прапанаваў абодвум бакам знайсці паміж сабой паразуменне і паабяцаў зноў прыехаць у Беларусь 29 ліпеня. У тым выпадку, калі да гэтага часу згода не будзе дасягнута, члены місіі ЕС паабяцалі адмовіцца ад ролі пасрэднікаў на перамовах.

Зразумела, такі паварот справы не можа задаволіць ніводзін з айчынных бакоў. Бо беларускія ўлады пасля гэтага губляюць надзею ў бліжэйшай перспектыве наладзіць добрыя адносіны з еўрапейскімі і міжнароднымі структурамі, а апазіцыя губляе надзею на задавальненне хаця б часткі сваіх патрабаванняў. Такая перспектыва, здаецца, павінна будзе стымуляваць бакі да пошуку кампрамісу.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**



— Жонцы даў слова, што рука мая больш не дакранецца да чаркі...

* * *

Хто п'е часцей
Спіртное пойла,
Таго працсей
Загнаць у стойла...

Як жывецца — так пяецца

## УСТОЙЛІВЫ

Вось што значыць — уцягнуўся:
Выпіць дзве бутэлькі змог
І ні разу не хіснуўся,
Бо стаяў... на чатырох.

●

— Што, Ахрэм, зуб усё яшчэ баліць? Цацкаешся з ім, шчаку падвязаў... Каб гэта мой балеў, я яго б даўно ўжо вырваў.

— А-а, каб твой... Каб твой, то і я вырваў бы адразу.

Пайшоў аднойчы Ахрэм на споведзь да папа.

— Грашыш, сын мой? — пытаецца малады поп. — Пралюбадзейнічаеш з чужымі бабамі?

— Ай, хлопча-ойча, нашто мне чужыя, калі сваіх хапае. Швагерка ў хаце, сястра ў жонкі ёсць, кума непадалёку жыве...

